# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 13 (2259) 26 сакавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).




**Адметнай рысай палітычнага жыцця Мінска можна назваць сёння актыўныя міжнародныя сувязі. Ужо больш за 80 краін свету прызналі незалежнасць Рэспублікі Беларусь, і адной з першых зрабіла гэты крок Федэратыўная Рэспубліка Германії. У сярэдзіне сакавіка з першым афіцыяльным візітам у беларускую сталіцу прыбыў намеснік федэральнага канцлера ФРГ, міністр замежных спраў Г.-Д. Геншэр. Было падпісана пагадненне аб аднаўленні дыпламатычных адносін паміж нашымі дзяржавамі. Напэўна, мала хто ведае, што Германія аднойчы ўжо прызнала незалежнасць беларускай дзяржавы і ўстанавіла дыпламатычныя адносіны з БССР у лістападзе 1922 года. Пасля ўтварэння СССР гэтыя сувязі не атрымалі далейшага развіцця.**

**У хуткім часе ФРГ і Рэспубліка Беларусь абмяняюцца дыпламатычнымі місіямі на ўзроўні пасольстваў.**

**НА ЗДЫМКУ: Г.-Д. ГЕНШЭР у час сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета РБ С. ШУШКЕВІЧАМ.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

**Іван САВЕРЧАНКА, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Беларускай акадэміі навук, вядомы нашаму чытачу па гістарычнаму эсэ «Канцлер Леў Сапега», якое друкавалася летась на старонках «Голасу Радзімы» і выклікала шырокае зацікаўленне. Цяпер жа аўтар «Канцлера...» прапануе пазнаёміцца з другой буйной постаццю нашай мінуўшчыны, мала каму вядомай сёння — палітыкам і дыпламатам эпохі Адраджэння і Рэфармацыі Астафеем Валовічам (каля 1520—1587). Ён меў дачыненне да зацвярджэння другога Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 года, падпісання Люблінскай вуніі, Полацка-Інфлянцкай (Лівонскай) вайны і многіх іншых важных і славутых падзей таго часу.**

**Сёлета ў нашым дадатку «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы» выходзіць гісторыка-біяграфічны нарыс Івана Саверчанкі «Астафей Валовіч». А пакуль мы прапануем чытачу два раздзелы з кнігі.**

(Стар. 5).

**З ДЫКТАФОНАМ І ФОТАКАМЕРАЙ—НА МІЛІЦЭЙСКАЕ ДЗЯЖУРСТВА**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА ВЫХАДНОГА ДНЯ

Тэмы, звязаныя з работай міліцыі, паказам адваротнага боку колішняга сацыялістычнага ладу на старонках «Голасу Радзімы» не распрацоўваліся: смецце з хаты развітога сацыялізму выносіць забаранялася. А цяпер, калі з картачнага будынка перабудовы чым больш за парог вымецеш, тым спрытнейшы, міжволі адольвае небеспадстаўнае сумненне, ці варта ў плынь культуралагічнай інфармацыі, што адрасуецца замежнаму суайчынніку, падмешваць, прабачце, «памыі» са споду нашага незайздроснага быцця? Вялікі піетэт да роднага кутка яны наўрад ці выклічуць, і не ўсім землякам замежжа такі матэрыял прыйдзецца дападобы, не сагрэе ўспамінам душу. Так жа?..

«А вы не баіцеся, што ваш матэрыял будзе трывіяльным? Нядаўна журналісты з тэлебачання ўвесь дзень прачакалі, нічога цікавага не трапілася»,— папярэдзіў мяне падчас інтэрв'ю начальнік штаба Упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома палкоўнік Валерый Страмбурскі (далей. — В. С.). Адчуваючы халадок варанёнай сталі ў кішэні, які прыдаваў мне смеласці, я адказаў, што дэтэктыўныя, вострыя сюжэты пажаданыя, але не самамэта. Задача ў тым, каб праз прызму звычайнай работы міліцыі на працягу дня паспрабаваць зазірнуць у той сацыяльны слой, які называюць крымінагенным. Ды і наша служба ахову парадку, уяўляючы сабой зрэз грамадства, разам з ім перажывае дэпрэсію, хварэе на тыя ж хваробы.



9.00—10.20. Дзяжурная часць.

Субота. Апошні дзень лютага і пярэдадзень Масленіцы. Зрання жыхары сталіцы, не на жарты ўсхваляваныя афіцыйна аб'яўленым павышэннем цэн на алкагольныя напоі, ужо нецярпліва мясілі адзін аднаго локцямі перад гастраномамі задоўга да іх адкрыцця. Карціны ажыятажу і народнага псіхозу добра праглядаліся з аўтобуса, які вёз мяне на Кабушкіна, 36, у райаддзел міліцыі Заводскага раёна Мінска. Там, за пультам дзяжурнага, пачаў працоўны дзень капітан міліцыі В. Котаў (на здымку) і інспектар-дзяжурны старшы лейтэнант М. Шостак. Разам з імі несла службу аператыўная група, падраздзяленне ДАІ, пазаведамасная ахова. Заводскі раён — самы складаны, самы непамяркоўны ў горадзе ў сваім стаўленні да выканання законаў, пад самую завязку нашпігаваны прамысловымі прадпрыемствамі, будаўнічымі арганізацыямі і па колькасці насельніцтва, 300 тысяч, можа раўняцца, напрыклад, з Магілёвым. «Аператыўная сітуацыя нармальнай ніколі не бывае»,— адказаў мне В. Котаў.

За невялікі прамежак часу, які спатрэбіўся мне, каб даехаць да райаддзела і пазнаёміцца настолькі, наколькі дазваляў неспакойны тэлефон на пульце, калейдаскоп падзей раскруціўся... На вуліцы Ангарскай п'яны чыніў хуліганства, забраўшыся чамусьці ў склеп. На суседняй — сужонства з першымі пеўнямі ўзялося высвятляць адносіны на кулаках, ахвяруючы чубамі, і самастойна патушыць канфлікт не мела магчымасці. У вакне «дзяжуркі» бачу збялелую, як палатно, жанчыну. Страх, боль, слёзы калоцяць яе так, што пашпарт не можа трымаць у руках. Сын-студэнт ноччу пайшоў з хаты, што дагэтуль ніколі не рабіў, і не вярнуўся...

В. С. Мы гаворым: дзяжурная часць — твар міліцыі. Людзі ў першую чаргу звяртаюцца да дзяжурнага. А той, здараецца, не тое, што зачарсцвеў, — адаптаваўся да людскога гора, шмат яго давёдзіцца сустракаць кожны раз. Я кажу: «А каб перад та-

(Працяг на 3-й стар.).

НА ВЫПАДАК НЕБЯСПЕКІ

## АНТЫКРЫЗІСНЫ КАМІТЭТ

Створаны ён па ініцыятыве Беларускага згуртавання вайскоўцаў. У склад яго ўвайшлі, акрамя ініцыятараў, прадстаўнікі міністэрстваў унутраных спраў, інфармацыі, замежных спраў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, БНФ «Адраджэнне», Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Мінгарсавета, свабодных прафсаюзаў. Старшынёй Антыкрызіснага камітэта абраны Вячаслаў Кебіч.

Мэта яго — абарона суверэнітэту Рэспублікі Беларусь ад хаосу і насілля, якія могуць перакінуцца да нас звонку, з тэрыторыі былога СССР, дзе адбываюцца непрадказальныя працэсы.

На думку С. Шушкевіча, які падтрымаў ідэю пагаднення ўсіх палітычных сіл рэспублікі, нягледзячы на іх «левы» ці «правы» ўхіл, пагроза суверэнітэту Беларусі ўзнікае штогадзінна. У такой сітуацыі нельга займацца палітычнымі гульнямі. Подпіс Старшыні Вярхоўнага Савета РБ таксама стаіць пад тэкстам антыкрызіснага пагаднення, як і подпіс лідэра апазіцыі З. Пазняка.

ЗАКЛІК ГРАМАДЫ

## АДЗНАЧЫЦЬ ДЗЕНЬ 25 САКАВІКА

З такім заклікам звярнуўся да грамадзян Беларусі Выканком Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

Акт 25 сакавіка 1918 года, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, паклаў пачатак барацьбе нашага народа за сваю дзяржаву, барацьбе працяглай, ахвярнай. Волю нашага народа да свабоды не маглі задушыць ні бальшавіцкія, ні польскія акупанты. Заўсёды на працягу больш чым 70 гадоў знаходзіліся людзі, якія мелі мужнасць змагацца за Беларусь, адстойваць правы нашага народа, яго мову і культуру. Успомнім жаўнераў і партызанаў 1918—1920 гадоў, успомнім слуцкіх паўстанцаў, якія баранілі Беларусь пасля таго, як бальшавікі змовіліся з Пілсудскім аб падзеле нашай краіны, успомнім нашых партызанаў і падпольшчыкаў у Савецкай і Заходняй Беларусі, успомнім патрыётаў, якіх кідалі ў турмы і высылалі ўлады Польшчы, якіх расстрэльвалі бальшавікі і гітлераўцы, якіх пакідалі без працы і заносілі ў чорныя спісы.

Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце нашай краіны, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе — лагічнае завяршэнне гэтае барацьбы.

БСДГ заклікае ўсіх, хто можа, вывесіць у гэты дзень бел-чырвона-белыя сцягі на дамах, балконах, лоджыях, на будынках прадпрыемстваў і ўстаноў.

Няхай наш сцяг пасведчыць: мы памятаем пра Акт 25 сакавіка 1918 года, мы помнім аб змаганнях за незалежнасць і дэмакратыю.

СХОД КІРАЎНІКОЎ

## АБ'ЯДНАННЕ ГАРАДОЎ

У Мінску адбыўся сход кіраўнікоў шэрагу гарсаветаў народных дэпутатаў рэспублікі, на якім утворана Аб'яднанне гарадоў Беларусі (АГБ), выбраны яго каардынацыйны орган на чале са старшынёй Мінгарсавета А. Герасіменкам. У яго склад увайшлі 20 гарадоў нашай рэспублікі. Зацверджаны статут, выбраны каардынацыйны савет з сямі чалавек — старшыняў гарсаветаў Магілёва, Мінска, Гродна, Мазыра, Маладзечна, Баранавічаў і Наваполацка, а таксама вызначаны памер уступнага ўзносу — 5 000 рублёў ад 100 тысяч насельніцтва, але не больш 20 тысяч рублёў. Аб'яднанне будзе забяспечваць абмен вопытам і інфармацыяй ва ўсіх сферах жыцця гарадоў, сумесную сістэму падрыхтоўкі кадраў для мясцовага самакіравання, распрацоўку эфектыўных структур кіравання і г.д.

ПАД СТАРЫМ СЦЯГАМ




**Пад чырвонымі савецкімі сцягамі, з партрэтамі Леніна, з лозунгамі, якія выказвалі патрабаванне аднавіць СССР, прыйшлі 15 сакавіка на мітынг тысячы мінчан. Мітынг адбыўся на плошчы Незалежнасці і быў прымеркаваны да гадавіны ўсесаюзнага рэферэндуму 17 сакавіка 1991 года. Праводзіў яго савет «Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць». А яшчэ трэба ўлічыць і тую акалічнасць, што арганізатары мітынгу паклікалі людзей на плошчу напярэдадні з'езда былых народных дэпутатаў СССР. Так што акцыя павінна была засведчыць не толькі вернасць прынцыпам цэласнасці былога Савецкага Саюза, але і падтрымаць арганізатараў з'езда. Акрамя адкрытых прыхільнікаў СССР, на мітынг прыйшлі людзі разгубленыя і заклапочаныя: гіне краіна, дзе шукаць выйсце і паратунак! Такіх людзей, змучаных сённяшнім жыццём, была абсалютная большасць. І іх прысутнасць, напэўна, меней за ўсё гаварыла аб падтрымцы таго, што рухнула пад разваліінамі вялікай краіны. Гэта быў хутчэй за ўсё пратэст супраць сённяшняга сацыяльнага становішча народа і бездапаможнасці ўлад. Ва ўсякім разе, мітынг паказаў, што грамадства наша палярызавана.**

**НА ЗДЫМКУ: у час мітынгу.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Кожную нядзелю ў Мінскім Палацы шахмат і шашак адбываюцца сходы вернікаў, якія праводзіць штаб-кватэра Славянскага місіянерскага служэння ў Беларусі і Беларускі саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў.

● Жаночая гімназія, першая ў Беларусі, адкрылася ў Жодзіне — горадзе, дзе выпускаюць вядомыя вялікагрузныя самазвалы БелАЗ. Юныя гімназісткі, акрамя агульнаадукацыйных дысцыплін, праходзяць урокі танцаў, музыкі, мастацтвазнаўства, вучацца быць добрымі гаспадынямі і маці.

● Два гады назад у Талачыне на яўрэйскіх могілках было пашкоджана 30 помнікаў, 16 з іх — разбураны дашчэнту. Зрабіла гэта група мясцовых падлеткаў. Цяпер на тых жа могілках зноў учынены акт вандалізму — разбіты на кавалкі чорны мармуровы помнік.

● «Настаўніцкая газета» прывяла наступныя лічбы: заробак прыбіральшчыцы на Мінскім камвольным камбінаце складае 1 180 рублёў. Настаўнік вышэйшай катэгорыі атрымлівае 1 130 рублёў. Рабочы сярэдняй кваліфікацыі мае 2 500 рублёў. Прафесару, доктару навук дзяржава плаціць 2 200 рублёў у месяц.

МЕТЭАРАЛАГІЧНАЯ СЛУЖБА



**Немагчыма ўявіць сёння работу народнай гаспадаркі рэспублікі без удзелу метэаслужбы. Яе інфармацыя папярэджвае аб небяспечных прыродных з'явах, дае аграметэаралагічны і гідралагічны прагнозы. Абагульненне назіранняў дазваляе выдаваць даведачныя матэрыялы, так неабходныя спецыялістам многіх галін.**

**Праблемы, што з'явіліся ў нашай рэспубліцы ў сувязі з вынікамі аварыі на ЧАЭС, паставілі перад Галоўгідраметам Беларусі задачу вывучэння ўзроўню забруджвання атмасферы і радыяцыйнай сітуацыі, каб прымаць дзейсныя меры барацьбы з гэтымі з'явамі.**

**Метэаслужба Рэспублікі Беларусь уваходзіць у Сусветную метэаралагічную арганізацыю.**

**НА ЗДЫМКУ: тэхнік аддзела назіранняў рэспубліканскай абсерваторыі Галіна АБРАМАВА рыхтуе да работы аэралагічны радыёлакатар.**

АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ

# КУДЫ ІДЗЕ ДАПАМОГА?

Гэтае пытанне гады тры-чатыры назад трывожна гучала толькі за мяжой. Людзі, якія спачувалі нашаму гору і ад чыстага сэрца ахвяравалі ў фонд дапамогі пацярпеўшым ад чарнобыльскага выбуху хто што мог, хацелі ведаць напэўна, куды ідзе дапамога. У нас усё выглядала прыстойна і гладка, па афіцыйных справаздачах, а да іх ужо даходзілі чуткі: штосьці брыдкае дзеецца з размеркаваннем лекаў, вітамінаў, харчавання і адзення.

Відаць, у нас кралі паціху, асцерагаючыся дурной агалоскі, ды і прэса была яшчэ ў моцных партыйных лейцах, таму і выходзіла ўсё па старому, надзейнаму прынцыпу: савецкі чалавек можа быць толькі высакародным. Ці то таму, што мы перасталі быць савецкімі, ці то прага нажывы не ведае межаў, а беспакаранасць, якая пануе цяпер у краіне, толькі патурае людзям цынічным, але раскраданне гуманітарнай дапамогі стала ў Беларусі сацыяльнай заганай. Пра яе ўсё часцей пішуць газеты, паведамляе радыё.

«Паўтара дзесятка вобыскаў зрабілі нядаўна работнікі міліцыі ў Брагінскім раёне і кожны раз знаходзілі ўкрадзеную гуманітарную дапамогу»,—пісала нядаўна газета «Рэспубліка». Мы ўжо паведамлялі, што галоўны ўрач Брагінскай раённай бальніцы П. і медсястра Р. былі злоўлены за руку. Вось што піша аб гэтым «Чырвоная змена»: «Значная частка дапамогі, прызначанай для дзяцей шматпакутнага Брагінскага раёна, што апынуўся ў палоне радыяцыі, трапіла ў брудныя рукі злодзеяў. У той час, калі няма лекаў для хворых дзяцей, вялізныя пачкі антыбіётыкаў, сарбентаў, вітамінаў і іншых медыцынскіх прэпаратаў былі прыхаваны на кватэры медыцынскай сястры Р. Злачынец ў белым халаце выкрала прадуктаў харчавання і медыкаментаў 159-ці (!) найменнняў на суму звыш 45 тысяч рублёў. Чаго толькі няма ў гэтым сховішчы: дзесяткі скрынак мясной тушонкі, на якіх напісана: «Европейское общество— детям потерпевших районов», дзіцячыя кансервы з плодаагародніннымі пюрэ, джэмы, пачкі з шакаладнымі цукеркамі, пернікі і вітамінізаваныя сокі ў рознай ёмістасці слоіках і слоічках».

Такія ж скарбы былі знойдзены і ў галоўнага ўрача на яго брагінскай і мінскай кватэрах.

Работнікі міліцыі выяўляюць усё новыя факты злоўжыванняў службовых асоб, паведамляе палкоўнік міліцыі з Гомеля Фёдар Казак. Загадчыца аднаго з дзіцячых садоў у Брагіне забрала сабе кансервы, ікру, дзіцячае харчаванне, навалачкі, прасціны, коўдры. Пры размеркаванні замежнай дапамогі раскрадалі яе і ў Камарынскай бальніцы № 2. Вялікая доля гуманітарнай дапамогі асядае менавіта ў размеркавальнікаў, не даходзіць да канкрэтных людзей, якім яна так патрэбна.

Такая ж агідная гісторыя здарылася і ў сталічнай школе-інтэрнаце № 7 у Мінску, дзе атрымалі харчаванне для дзяцей-сірот з Германіі. Работніцы сталовай В. Шарамет і А. Барысевіч вырашылі «падзяліцца» гуманітарнай дапамогай з дзецьмі, якіх і так пакрыўдзіў лёс.

А дабрачынны груз, які адправілі з Германіі ў Гомель муж і жонка Ціль і Рэната Прале, наогул не трапіў таму, каму быў прызначаны.

Людзей, нячыстых на руку, як гэта ні сорамна, не меншае. Нават гуманітарная дапамога, што размяркоўваецца праз касцёлы, трапляе не да слабых і знямоглых, а да моцных і здаровых дзецюкоў. Г. Астроўскі, які быў сведкам размеркавання дапамогі ў Францысканскім касцёле ў Гродне, паведамляе ў «Рэспубліцы»: «У чарзе ледзь не ўзнікла бойка. Старэнькім бабулькам, інвалідам тут не было чаго рабіць. Пасылкі атрымлівалі добра апранутыя, здаровыя мужыкі, якія потым ад'язджалі на ўласных аўтамабілях.

Другі раз выпадкова аказаўся на раздачы пасылак. І зноў дужэйшыя лезлі наперад. Убачыў сярод іх знаёмыя па першаму разу твары».

Усё большага розгаласу ў сродках масавай інфармацыі набірае фонд «Дзецям Чарнобыля», які ўзначальвае народны дэпутат Беларусі Генадзь Грушавы. Падамо толькі выказванне старшыні Баварскага дабрачыннага таварыства «Дзецям Чарнобыля» Эрыха Заўэра. «Германія актыўна адгукнулася на заклік Грушавога аб дапамозе,—гаворыць Э. Заўэр. — Разам з тым ужо самыя першыя дзелавыя кантакты з ім выявілі лёгкасць і павярхоўнасць меркаванняў і ўяўленняў гэтага чалавека... Па-першае, у дзейнасці фонду Грушавога не адчуваецца канкрэтнай праграмы дзеянняў. Па-другое, кіраўнік беларускай арганізацыі ніколі не абцяжарваў сябе вядзеннем строгага бухгалтарскага ўліку паступлення і расходавання грашовых сродкаў. Па-трэцяе, яго словы часцей разыходзіліся са справай. Па-чацвёртае, нямецкі бок неаднойчы сутыкаўся з фактамі адкрытай няпраўды і наўмыснага падману.

Дзіўным выглядае імкненне Грушавога да самарэкламы за мяжой, яго імкненне паказаць сябе ледзь ці не галоўным у Беларусі знаўцам чарнобыльскіх праблем... Пасля наведання Канады ў інтэрв'ю адной мясцовай газеце пан Грушавы проста заяўляе, што яго дачка хварэла ў выніку чарнобыльскай аварыі на лейкемію, таму ўдзел народнага дэпутата ў гуманітарным руху набывае асаблівы сэнс. Але ж мне дакладна вядома, што дачка беларускага парламентарыя ніколі не хварэла не лейкемію, а цяпер знаходзіцца ў Берліне, вучыцца тут у адной з вышэйшых навучальных устаноў».

Э. Заўэр абвінавачвае Г. Грушавога ў карыслівых мэтах, а газета «Набат» патрабуе ад дэпутата даць ясны адказ: на што пайшлі тыя 8 тысяч долараў, якія перадалі яму беларусы Кліўленда і Саўт-Рывера.

Сорамна перад светам, што злачынства, абіранне бліжняга свайго стала ў нас невылечнай заразай.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА ВЫХАДНОГА ДНЯ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

бой твая маці стаяла?» Мы вельмі скрупулёзна адносімся да гэтай дзялянкі міліцэйскай работы...

Вы гаворыце, што ў друку і г. д. міліцыя абвінавачваецца сёння ў бяздзейнасці, карупцыі. Дайце нам факты, а не агулам, па кожнаму дакладна разбяромся. Безумоўна, розныя людзі прыходзяць працаваць у міліцыю: каго адно форма і ўлада вабіць, некаму хочацца кулакі пачасаць, брудныя намеры і мэты мае. І мы іх чысцім, як нешта выяўляем: подламу няма месца ў праваахове. За парушэнне на службе мы пакаралі ў мінулым годзе 452 гарадскіх міліцыянераў. За неабгрунтаваны адказ ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, незаконнае ўстанаўленне адміністрацыйнага нагляду, нават згвалтаванне (быў такі выпадак з боку маладога міліцыянера).

**10.20—13.20. На старасць не скула, дык нарасць.**

З паведамленняў, толькі што прынятых дзяжурным, адно насіла характар надзвычайнасці. Урач хуткай дапамогі. выкліканы да хворай, паведаміў аб яе магчымай гвалтоўнай смерці.

Праз 10 хвілін намеснік начальніка Заводскага райаддзела міліцыі маёр Леанід Шчарбакоў, старшы оперупаўнаважаны капітан Віктар Сляпнёў і я ўжо заходзілі ва ўказаную кватэру на Партызанскім праспекце. З дзвярэй у твар патхнула запусценнем: зашмальцаваныя палавікі, шпалеры начыста выцвілі. Гаротная старасць, відаць, аджывала свой век, з цяжкасцю адлічваючы крокі з кутка ў куток, каб тысячны раз глянуць праз нямытыя шыбы на свет божы. Ля пакутніцы, сямідзесяцігадовай грамадзянкі П., высахлай, з крывападцёкамі на твары, сядзеў стары гаспадар, сам жа інвалід вайны. Сын, які жыве асобна, прыехаў адведаць маці і знайшоў яе мёртвай. Старая шэсць гадоў ляжала паралізаваная.

За паўгадзіны міліцыя сабрала паказанні сведкаў. У хуткім часе на тралейбусе прыехаў следчы па асоба важных справах УУС і эксперт з фотаапаратам, якому час быў у рамонт. За крэслам знайшлі паламаную, без верху, кульбаку. На ўсе пытанні дзядуля знерваваным голасам паўтараў: «Уставала з ложка, падала, па білася». — «Як уставала, калі была паралізавана?» — «Уставала і падала».

Гадзіны праз тры дачакаліся судмедэксперта і следчага пракуратуры. Зона ўвагі першага — некалькі раёнаў, другога — увесь горад. А ў гэты дзень у Мінску здарылася некалькі смярцей, таму і прыпазніліся.

Суседзі нічога падазронага не чулі. Гаспадар выпіваў мала, кватэру не пакідаў, не было сілы. Ён бажыўся, што нікога чужога ў хаце не было. Дадатковы агляд месца верагоднага забойства даў важны доказ: адламаную і выкінутую на вуліцу частку кульбакі...

Самахоць напрошвалася версія: стогны жонкі і ўласная немач абвастрылі нервы былога партызана да параксізму і, калі чарговы раз жонка ўпала з ложка, не вытрымаў. Не памятаючы, што робіць, узяў кульбаку...

А я вярнуўся ў райаддзел. Падзеі разгортваліся сваім шляхам. Сярод іншых паступілі дзве заявы. У аддзеле рэанімацыі 10-й бальніцы ў доктара ўкралі куртку. Ізноў ніхто чужы не заходзіў і ніякім чынам не мог зайсці: доступ у рэанімацыю мае выключна медперсанал.

Дзелавы чалавек на пятнаццаць хвілін прыпаркаваў аўтамабіль насупраць універмага «Беларусь». Вяртаецца — машыну абакралі.

*Радок статыстыкі: у 1991-м у Мінску зарэгістравана 13 097 агульных злачынстваў, што па тэмпах росту складае 7,9 працэнта.*

**13.20—20.00 Аўтапатруль.**

Прысутнічаем на інструктажы нарадаў патрульна - паставой службы. Паўсотні маладых вартаўнікоў парадку ў стане выканаць любое заданне **(першы здымак зверху).** Ужо знаёмы нам маёр Шчарбакоў падкрэслівае: галоўная ўвага — аддзелам магазінаў, дзе прадаецца алкаголь. Будзе многа п'яных. Вялікая чарга — спрыяльнае асяроддзе для злодзея. Пакупніку прыходзіцца трымаць у руцэ пук грошай, талоны, купоны, візітку. Пакуль блытаецца ў паперах, злодзей вырве грошы—і дзёру! «Вы маеце гумавыя дубінкі, «Чаромху», аб'ектыўна, у межах разумнага ўжывайце гэтыя сродкі. Людзі наракаюць: часам перагінаем мы тут палку», — наказваў маёр падначаленым.

**В. С.** Прафесія міліцыянера не надта прэстыжная, хоць і патрэбная. Асенізатар таксама патрэбен... У асноўным да нас ідуць людзі з вёскі. Не ўсе з іх падрыхтаваны як след выконваць высакародныя абавязкі. Пераважная большасць міліцыянераў па нацыянальнасці беларусы. Бясспрэчна, суверэнная дзяржава павінна мець разам з іншымі атрыбутамі дзяржаўнасці і сваю нацыянальную гордасць — міліцыю. Мы ва Упраўленні зладзілі курсы беларускай мовы. Многія ёю і без таго добра валодаюць. Ды я не думаю, што сам па сабе пераход, скажам, справаводства на беларускую мову адразу дапаможа больш эфектыўна раскрываць злачынствы. Ці ведаеце вы, што крымінальны кодэкс, якім мы карыстаемся, не мяняўся з 61-га года?! Наша заканадаўства па многіх параметрах безнадзейна састарэла!

Разам з патрульным нарадам, дзе старшым Мікалай Лучанок, выязджаем на маршрут. Праўду кажуць: гара з гарой не сыдуцца, а п'яны з міліцыяй заўжды. Вылазяць, як грыбы пасля дажджу. Патрульныя рэагуюць на іх, як магніт на жалеза. П'яны ёсць мішэнь для зламысніка, тлумачаць; абабраць такога да ніткі працай простага.

Завязваю гаворку наконт Закона аб міліцыі, які ўступіў у сілу роўна год назад. Упершыню ў гісторыі дзяржавы прыняты асобны, канкрэтны, дэталёвы закон, які дазваляе міліцыянеру пры неабходнасці выкарыстоўваць і зброю. Як ставяцца мае суразмоўнікі да такіх новаўвядзенняў беларускага парламента? Ці даводзілася «агаляць ствол»?

Стралялі. Пакуль што ў паветра.

*Радок статыстыкі: у 1991 годзе работнікі праваахоўных органаў Мінска 80 разоў скарыстоўвалі зброю. Ва ўсіх выпадках прызнана правамернасць яе прымянення.*

А закон на самай справе быў бы дзейсным, каб выконваўся. Для прыкладу: супрацоўнік міліцыі мае права на 50-працэнтную скідку пры аплаце кватэры і камунальных паслуг. Дык у дачыненні кватэры Закон дзейнічае, а паслуг —не. Заробак міліцыянера трохі перасягае дзве тысячы. Гэта ў сярэднім больш, чым у настаўніка і менш, чым у рабочага. І наогул, калі паслухаць патрульных, немаведама якія адносіны да міліцыі: ні формы, ні запчастак для машыны, ні сучаснага абсталявання. Маўляў, «мент» усё вытрымае...

«А хто з насельніцтва вам больш за ўсё дасаляе?» — «Тыя, хто раней судзіўся, і падлеткі. Няма дзе моладзі адпачыць, талкова вольны час правесці».

*Радок статыстыкі: на 20 тысяч жыхароў мікрараёнаў Ангарская-3 і 4 з месцаў культурнага адпачынку прыходзіцца 1 відэасалон. Злачыннасць сярод непаўналетніх па Мінску: 1990 год — 1 090, 1991-шы — 1 307 выпадкаў.*

**В. С.** Вось зводка здарэнняў за дзень. У асноўным — злачынствы, якія зрабілі падлеткі. А гэта ж наша будучыня, гэта тыя людзі, хто павінен заняць маё і ваша крэсла. А паглядзіце, хто сядзіць у кааператыўных кіёсках, хто гандлюе кветкамі і парнаграфічнымі газетамі.

Найбольш гарачай, ужо распаленай кропкай на маршруце з'явіўся універсам на вуліцы Несцерава. Натоўп пагражаў вынесці на сабе абабітыя бляхай дзверы штучнага аддзела. **Тут табе, пралетарый, і Масленіца, тут і Юр'еў дзень (другі здымак зверху).** Прысутны на самым лобным месцы мікрараёна люд сустрэў хлопцаў з дубінкамі воклічамі адабрэння. Імгненна разляцеліся па баках несвядомыя і нахабныя, хто бессаромна наважыўся выкупіць гарэлку, не прастаяўшы палову дня ў чарзе. Праўда, дваіх прыяцеляў, якім мора ўжо з усходу сонца было па калена, давялося ўтаймоўваць сілай. **(Трэці і чацвёрты здымкі зверху).** Неслухаў лёгка і спрытна запіхнулі ў машыну. І каб неяк улагодзіць, разрадзіць атмасферу, уставіў і я сваё: «Мужыкі, а вы з якога завода?» Імгненна ў адказ мне тыцнулася пад нос здаравенная дуля з чорна-брудным пазногцем.

...Выхопліваючы з цемры глыбокія лужыны, абрысы дамоў і нейкага насыпу, УАЗік прытармазіў на стаянцы аўтафургонаў. Ліхтар патрульнага асвяціў у прасторнай кабіне, побач з вадзіцелем, асунуты ад лішку страсцей і градусаў твар маладой жанчыны, мяркую, прадстаўніцы самай старажытнай, а сёння дужа аўтарытэтнай прафесіі.

*Радок статыстыкі: у Мінску афіцыйна зарэгістравана 2 прастытуткі.*

**В. С.** Прастытуцыя? Да гэтае пары ў законе няма такога крымінальна каральнага дзеяння. ёсць адміністрацыйнае. Ды і даказаць цяжка. Можна гаварыць адно аб маральных адносінах да гэтай з'явы.

Жанчына, па яе словах, знаходзілася ў заслужаным водпуску і зайшла пасядзець. «Утульна сядзім» **(першы здымак знізу).** А што, нельга? Яе каляжанка з другой кабіны фізічна не магла прывесці такое алібі, лыка не вязала, хоць спрабавала схавацца за фіранкай. З мэтай прафілактыкі гэтую грамадзянку адвезлі ў медвыцвярэзнік. Знакамітая ўстанова толькі пачала прымаць «пацыентаў». Адзін з іх моцна лаяўся, спяваў і падвываў—усё адначасова, таму і быў прывязаны да ложка. Чацвёра астатніх прыкмет незадавальнення не выказвалі, ляжалі ціха і роўненька. Дзень перад гэтым, як мне сказалі, набралася пятнаццаць душ. Сённяшнім у тры з паловаю разы пашанцавала больш, чым заўтрашнім. Яны заплацяць за начлег у казённым доме 70 рублёў, а тыя—250. Цэны растуць усюды...

Мая спадарожніца хоць і трапіла пад апеку ўрача, але і нас не абдзяляла ўвагай. «Вось вам за ўсе мае грахі» **(другі здымак знізу).** Праз паўгадзіны наша крыўдзіцелька, мераючы вуліцу ўпоперак, з ціхім мар-

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**



## БЕЛАРУСКАЯ ПРЫСУТНАСЦЬ У ЛАТВІІ

# ХТО ПАКЛІЧА ДА ЗГОДЫ?

Гэта яшчэ нязвычна вымаўляць, але нядаўнюю камандзіроўку ў Латвію прыходзіцца лічыць замежнай. Я наведаў суседнюю дзяржаву, хаця і па запрашэнні суайчыннікаў. Праўда, мытнікі ні на мяжы з Летувай, ні на мяжы з Латвіяй мяне не сустракалі. Затое ў Даўгаўпілсе на вакзале была поўная неспадзяванка: па даручэнні аднаго з арганізатараў канферэнцыі беларусаў Пятра Коўзеля мяне сустрэў... ойча Вячаслаў — тамтэйшы грэка-каталіцкі святар.

Амаль праз 71 год з дня заснавання культурна-асветнага таварыства «Бацькаўшчына» ва ўсходняй частцы Латвіі — Латгаліі (25 сакавіка 1921 года) пад уплывам даўно створаных у Даўгаўпілсе нацыянальных суполак (польскай, літоўскай, украінскай і іншых) зарухаліся і беларусы. І нягледзячы на тое, што ў адрозненне ад іншых нацыянальных меншасцяў беларусы маюць выгодны статус — яны спрадвеку тут карэнныя жыхары краю — з'яднацца, самавызначыцца ім дагэтуль не ўдавалася. Надта ж ужо ўеліся ў душу стрэмкі афіцыёзнай выкаўкі «адзінага савецкага народа». У тым ідэалагічным парыве да зліцця нацыяў беларусы ішлі паперадзе, абломваючы свае галіны, вырываючы карэнні, не прызнаючы тысячагадовую шырачэзную крону існасці. Тут і віна наша, і бяда. Можам смела зараз вінаваціць сталіных, хрушчовых, мазуравых... Але ж і ў нас, і ў суседзяў было тое самае: «калюмна вэртэбраліс» — слуп пазваночны. Як падумаеш зараз, то і ў мяне ён, згінаючыся, да нормы не заўсёды выпростваўся. Відаць, такая нам кара божая.

Выступаючы на канферэнцыі, я гаварыў, што сёння для адраджэння беларускасці не трэба нічога прыдумваць. Варта павучыцца ў папярэднікаў, згадаўшы іх імёны, іх справы.

Да прыкладу, каб распачаць асветную справу, статут даваеннай «Бацькаўшчыны» згадзіліся падпісаць такія самаахвярныя людзі з Дзвінска-Даўгаўпілса, як Я. Харлап, Я. Белікаў, М. Хмялеўскі, В. Васільева, П. Дзяменцьеў, Я. Кастылюк, А. Чапля, М. Сасноўская... Дзякуючы гэтаму, таварыства было зарэгістравана, пачалася арганізацыя школ, настаўніцкіх курсаў, пры Міністэрстве асветы Латвіі быў адкрыты Беларускі аддзел, праз які пачалося фінансаванне ўсёй культурна-асветнай работы.

Сёлета 1 красавіка спаўняецца 70 гадоў, як дзвінскія беларусы атрымалі дазвол на адкрыццё ў горадзе дзяржаўнай гімназіі. Ужо маю пісьмо ад выпускніцы — дачкі першага дырэктара гімназіі Івана Краскоўскага Людмілы Краскоўскай з Браціславы. Дачка наступнага дырэктара гімназіі Сяргея Сахарава — Ірына Вількель з Рыгі перадала многа здымкаў з жыцця гімназіі, ма́ю матэрыялы аб дзейнасці гэтай навучальнай установы ад Соф'і Карнавухавай, Яўгеніі Васільевай з Даўгаўпілса. Цікавыя ўспаміны перадала мне ў свой час Эмілія Казак-Казакевіч з Індры. Хацеў бы мець звесткі пра выпускніцу гімназіі цудоўную паэтку Курганную Кветку — Валянціну Казлоўскую. Адно ведаю, што яна калісьці выехала з Латвіі на Беларусь, дзе стала лекаркай. Мо ў архіве Паўліны Мядзёлкі, былой выкладчыцы Дзвінскай гімназіі, знойдуцца дадатковыя матэрыялы?

Канферэнцыя беларусаў у Даўгаўпілсе, заснаваўшы сваё таварыства, выбрала Раду. Думаю, што суайчыннікам хопіць работы як для нацыянальнага адраджэння, так і для збліжэння з духоўнай культурай суграмадзян, у тым ліку з латгальскай супольнасцю і, канешне ж, з латышамі. Вымагае самага цеснага супрацоўніцтва, напрыклад, такая балючая праблема, як абарона, захаванне і адраджэнне Заходняй Дзвіны, якою валодаюць тры дзяржавы — Расія, Беларусь, Латвія.

Летась я быў у Даўгаўпілсе ў складзе беларускай дэлегацыі на абмеркаванні праблем фармавання культурнага асяроддзя паабапал Дзвіны-Даўгавы. Эколагі перш за ўсё чамусьці звяртаюць увагу на жыжку, што выцякае з фермаў. Але ж пасля 1920 года, калі некалькі паветаў былой Віцебскай губерні былі перададзены Масквою Латвіі, пачалі знікаць спрадвечныя найменні (напрыклад, мястэчка Пустыня златышызавана ў Робежніекі, не стала станцыі Бальбінова — ёсць Індра). Праўда, і мы забыліся, што раку Даўгаву называлі ракой Даўгою, а яе дэльта — гэта рыгво, або рыга.

Я не згодзен быў з прадстаўніком украінскага клуба «Дніпро», які на канферэнцыі сказаў, што яго землякі займаюцца не палітыкаю, а спевамі і вывучэннем мовы. Напачатку такая дзейнасць сапраўды патрэбная. Ды вось падумалася: а хто заўтра будзе абараняць у латвійскім парламенце інтарэсы 120 тысяч латвійскіх беларусаў? У даваеннай Латвіі было зарганізавана, напрыклад, «Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў у Сойм, гарадскія і валасныя самаўрады». У праграме гэтага таварыства чытаю параграф трэці: «Беларуская меншасць спаўняе прадугледжаныя законам агульнаграмадскія абавязкі перад Латвійскай Дзяржавай. Латвійская Дзяржава і заканадаўства забясьпечваюць належным законам правы беларускае меншасьці».

Вось так, толькі дэмакратычным шляхам пры дэмакратычнай уладзе можна ладзіць уласнае жыццё.

Даўгаўпілскім беларусам з карысцю можна ўзірацца не толькі ў мацярык папярэднікаў — латгальскіх беларусаў, а і ў акаём-далягляд. У Рызе, да прыкладу, ужо амаль чатыры гады існуюць розныя беларускія згуртаванні. Пры Балта-славянскім таварыстве культурнага развіцця і супрацоўніцтва ў свой час узнік беларускі культурны цэнтр «Раніца», які распачаў работу па адраджэнні славянскага культурнага асяроддзя ва ўзаемадзеянні і ўзаемаўзбагачэнні з нацыянальнай культурай латышскага народа. На нейкі дзень раней ці пазней узнікла ў Рызе Латвійскае таварыства беларускае культуры «Сьвітанак». Тады, памятаю, кіпелі страсці і ўзаемныя папрокі: каму хто служыць — Інтэрфронту ці Народнаму фронту? «Сьвітанак» вызначыў у статуце наступнае: «Сябар таварыства абавязаны ведаць беларускую мову і карыстацца ёю на ўсіх сходах і сустрэчах; у выпадку няведання беларускай мовы ён павінен яе вывучыць у вызначаны тэрмін». «Сьвітанак» арганізацыйна ўваходзіць у АНКАЛ (Асацыяцыю нацыянальна-культурных аб'яднанняў Латвіі). Актывістамі таварыства Сяргеем Кузняцовым, Вячкам Целешам, Аленай Міцкевіч і шэрагам іншых сяброў Рады праведзена канферэнцыя беларусаў (сумесна з «Раніцай»), адзначаны юбілеі Ф. Скарыны, М. Багдановіча, наладжаны выстаўкі «Беларусы ў Латвіі», «Маю гонар» (сумесна з мастакамі Балтыі), сустрэчы з Уладзімірам Арловым, Валянцінам Грыцкевічам... Я прысутнічаў на занятках у будынку Малой Гільдыі, што ў Старой Рызе. Туды па нядзелях прыходзяць адна за адной дзве групы беларусянят: прыемна было глядзець, як пад наглядам Вячкі Целеша яны даводзяць свае нацюрморты, прыгожа, звычна ўзгадваюць па-беларуску назвы месяцаў... А ў хуткім часе, калі знойдзецца настаўнік, будзе ў Малой Гільдыі працаваць і беларуская нядзельная школа. Дзяржава гатова выдаць сродкі, толькі няма каму іх узяць. А ўсё таму, што няма кансалідацыі, узаемаразумення. Напрыклад, фальклорны ансамбль «Надзея», якім кіруе Ніла Александровіч, ладзіць свята «Беларускія Каляды». Той-сёй са «Сьвітанка» ігнаруе гэта, бо «Надзея» не на платформе таварыства. Было такое, што прадстаўнікі «Раніцы» і «Сьвітанка» стварылі каардынацыйны цэнтр «Бацькаўшчына», але да паразумення так і не дайшло. А такі каардынацыйны цэнтр у сённяшніх умовах для беларусаў Латвіі проста неабходны. Бо ўжо існуе тая ж «Надзея», суполка ТБМ імя Ф. Скарыны, Латвійскае аддзяленне мастакоў-беларусаў Балтыі, суполка Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, у школе г. Тукума, у іншых мясцінах працуюць беларускія факультатывы, у рэшце рэшт стала жывуць у Латвіі паэты Станіслаў Валодзька, Андрэй Гуцаў, да гэтага часу піша вершы 95-гадовы Эдвард Вайвадзіш з-пад Індры...



На заканчэнне хачу нагадаць некалькі радкоў з пісьма, якое калісьці прыслала мне з Рыгі бібліёграф В. Пуцэ, знаёмячы мяне з дэталямі латышска-беларускага спараднення: «Цікавы той факт, што на пахаванні Райніса (1929 год), праводзячы свайго сябра і абаронцу ў апошні шлях, беларусы апавясцілі суграмадзян з усёй Латвіі. Гэта быў першы і апошні раз, калі беларусы выйшлі на вуліцы Рыгі ў адзінай калоне».

З таго часу ідзе 63 год. Хто ж і калі зноў пакліча 120 тысяч латвійскіх беларусаў пад родны бел-чырвона-белы сцяг духоўнай Згоды і Еднасці?

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**



**НА ЗДЫМКУ: вучаніцы Дзвінскай беларускай гімназіі Марыя КАСПЯРОВІЧ і Антаніна МАЛАХОЎСКАЯ; настаўнікі і вучні Першай рыжскай асноўнай школы (вул. Маскавас, 163).**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА ВЫХАДНОГА ДНЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

мытаннем рухалася ў накірунку стаянкі аўтафургонаў...

**20.00—22.00. Службу 02 трэба ўдасканальваць**

А на Кабушкіна, 36, кіпела работа, спраўджваліся ранішнія прагнозы. Следчы Л. Казей здымаў паказанні з пацярпеўшага, у якога ў той жа чарзе, менавіта з рук, злачынец выхапіў грошы, 171 рубель. І калі іх уладальнік запярэчыў, то атрымаў удар кулаком у твар.

А тэлефон не змаўкаў, нёс і нёс трывогу, гора, звычайныя чалавечыя турботы. З Чыжоўкі (мікрараён горада) патруль дакладваў: у лётным вучылішчы, на дыскатэцы, наспявае бойка. Накіраваны дадатковыя нарады міліцыі і АМАНа... Каханка асуджанага дапытвалася, ці можа прынесці яму перадачу, бо жонка не носіць... Пенсіянер прасіў даведацца, чаму яго сястра не здымае трубку тэлефона. Ехаць да яе няблізка, а грошай на таксі няма... Злодзей, скарыстаўшы ад'езд гаспадароў у вёску, залез у кватэру, выцягнуў дываны, забраў крышталь. Расследаванне ажыццяўляла група Леаніда Шчарбакова.

*Радок статыстыкі: у 1991 годзе зафіксаваны 1 831 выпадак кватэрных крадзяжоў, што на 10 працэнтаў болей, чым у 1990-м.*

**В. С.** Летась на аднаго следчага замест нормы 25—30 спраў, прыйшлося па 82, ні адно злачынства не спісваецца ў архіў, не адкладваецца. У мінулым годзе працэнт раскрыцця склаў 74. Ён самы высокі сярод усіх краін СНД.

Тут трэба і кропку паставіць, а я не магу вырашыць, паказаў я крымінагеннае асяроддзе ці не? Што, стары інвалід, жрыца кахання са стаянкі, рабацягі ў бясконцых чэргах, чыё жыццё ўціснута ў адвечны трохкутнік — завод — вінагарэлачны аддзел — некалькі дзесяткаў квадратных метраў жалезабетоннай кватэры, і з'яўляюцца састаўляючымі элементамі «дна»? І самахоць прыходжу да невясёлай высновы, што мяжа паміж сподам і здаровай часткай грамадства зрабілася надта рухомай, празрыстай, ледзьве - ледзьве прыкметнай. І мы ўсё грамадой бездапаможна паглыбляемся ў прававую бязважкасць, беззаконне, дзе злачынца пачуваецца героем нашага часу, супермэнам, а законапаслухмяны грамадзянін — у яго на пабягушках.

Але на якой бы прыступцы сацыяльнай, інтэлектуальнай, матэрыяльнай лесвіцы мы ні стаялі, у хвіліну небяспекі ці бедства кідаемся да тэлефона і набіраем 02. Не руйнаваць гэтую службу трэба, а ставіць на ногі, удасканальваць. І хацелася б, каб прынцып сілавога ўздзеяння накшталт Коласава «Гэй, гарадавыя, даць яму ўпярод» не стаў законам паводзін чалавека ў міліцэйскай форме. А каб і роды прыняць умеў, ін'екцыю зрабіў, слабога абараніў.

Гожую помач парадай, вопытам маглі б аказаць у гэтым плане і замежныя суайчыннікі, хто выбраў кар'еру паліцэйскага. Такое супрацоўніцтва было б вельмі каштоўным. Таму мы з нецярпеннем чакаем водгукаў з-за мяжы.

**Апошняе слова.** Гаворачы аб «варанёнай сталі», я меў на ўвазе дыктафон.

Экспертыза паказала: пабоі, прычыненыя грамадзянцы П., прычынай смерці не з'явіліся.

**З дыктафонам дзяжурыў Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**
**З фотакамерай— Віктар СТАВЕР.**

# АСТАФЕЙ ВАЛОВІЧ

**ГІСТОРЫКА-БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС**



**Іван САВЕРЧАНКА**

## ЛЮБЛІНСКАЯ ВУНІЯ 1569 ГОДА

1569 год прынёс падканцлеру Астафею Валовічу, як і ўвогуле ўсяму беларускаму народу, новыя, нябачаныя дагэтуль выпрабаванні і стаўся найбольш трагічным у айчыннай гісторыі другой паловы XVI стагоддзя. Галоўная прычына таму — наступ маскоўскіх войскаў на беларускія землі ды іх чарговае спусташэнне.

**Ратуючы Айчыну ад пагібелі, вялікакняскі ўрад звярнуўся за помаччу да палякаў. Але тыя, абяцаючы дапамогу ў вайне з Маскоўшчынай, настойвалі на падпісанні вуніі, прычым на ўмовах, якія прапануюць яны. Як і пяць год назад, палякі дзеля ўласных карыслівых мэтаў жадалі аслаблення і заняпаду беларускага гаспадарства, імкнучыся ажыццявіць сваю даўнюю мару: падпарадкаваць Княства Кароне. Дапамога з боку Польшчы магла каштаваць Беларусі волі і дзяржаўнасці. Вялікае Княства апынулася перад выбарам: альбо непазбежная пагібель ад Маскоўшчыны, альбо ганебная і цяжкая вунія з Польшчаю. Іншага выйсця не было.**

**У гэтакіх варунках вунія з Польскім каралеўствам уяўлялася насельнікам Вялікага Княства ўсё ж такі меншаю з дзвюх бедаў, бо пакідала нейкую надзею на выратаванне. Гэтая надзея грунтавалася, найперш, на гістарычным вопыце народа. Лёс усіх папярэдніх пагадненняў Княства з Каронаю, пачынаючы з часоў Ягайлы і Вітаўта, сведчыў акурат пра тое, што шэраг артыкулаў падпісанай вуніі на практыцы можна не выконваць, а пры больш спрыяльных умовах — і наогул разарваць яе.**

10 студзеня 1569 года ў Любліне сабраўся агульны Вальны Сойм Вялікага Княства і Польшчы для абмеркавання прынцыпаў дзяржаўна-палітычнай вуніі. У склад вялікакняскай дэлегацыі, апроч Астафея Валовіча, уваходзілі такія ўплывовыя асобы, як віленскі ваявода канцлер Мікалай Радзівіл Руды, жамойцкі староста Ян Хадкевіч, падскарбій Мікалай Нарушэвіч.

Падчас Люблінскага Сойму яшчэ раз ва ўсёй паўнаце выявілася моц характару падканцлера Княства Астафея Валовіча, ягоны талент дзяржаўнага і палітычнага дзеяча, а гэтаксама сапраўдная мужнасць, глыбокая адданасць Айчыне ды шчырае ўслугаванне свайму народу.

Па прыездзе ў Люблін А. Валовіч, перад тым як павесці гутарку пра вунію з палякамі, сумесна з іншымі раднымі панамі Княства, некалькі разоў сустрэўся з Жыгімонтам II Аўгустам, вырашыў шэраг неадкладных унутрыгаспадарчых праблемаў і дамогся ад яго зацвярджэння Статуту Вялікага Княства з новай рэдакцыяй паасобных артыкулаў. Падпісанне каралём і вялікім князем Статуту мела надзвычай важнае значэнне перад абмеркаваннем пытання аб вуніі. Гэта быў дадатковы козыр у руках Валовіча, які адразу заўважылі польскія сенатары. Таму, разглядаючы новы Статут Вялікага Княства на сваім паседжанні 22 студзеня 1569 года, яны адразу выступілі супроць многіх яго артыкулаў (III, 3, 6, 9), якія якраз баранілі незалежнасць беларускага гаспадарства.

У той жа час пад пільным наглядам падканцлера Валовіча дапрацоўваўся важнейшы дакумент, вынесены на абмеркаванне Люблінскага Сойму,— «Праект вуніі». Менавіта тэкст гэтага «Праекта», у хуткім часе зачытаны на Сойме, як нішто іншае дазваляе зразумець погляд Астафея Валовіча дый усіх іншых прадстаўнікоў беларускага гаспадарства, на характар стасункаў між Княствам і Каронаю ў будучыя часы і разуменне імі прынцыпаў дзяржаўна-палітычнай вуніі.

Падрыхтаваны ў вялікакняскай Канцылярыі пад пільным наглядам Валовіча «Праект вуніі» ўключаў 15 артыкулаў і прадугледжваў наступныя ўмовы паяднання.

1) Польскае каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае ва ўсе часы сумесным галасаваннем і аднолькавай колькасцю дэпутатаў выбіраюць аднаго агульнага гаспадара — караля і вялікага князя. Пры гэтым яны ва ўсім пазбягаюць таго, што магло б абразіць вышэйшую ўладу (маястат) ды гонар абедзвюх дзяржаваў.

2) Элекцыя (абранне манарха) павінна праходзіць на сумежжы Кароны з Княствам, каб палякам і ліцьвінам было аднолькава зручна прыязджаць туды для ўдзелу ў акце абрання. Той, хто падчас гэтае элекцыі будзе абвешчаны каралём, абіраецца і вялікім князем. Пасля элекцыі паслы з Вялікага Княства паедуць у Польшчу на каранацыю, а з Польшчы — у Вялікае Княства, каб узвесці гаспадара на вялікае княжанне, захоўваючы ўсе старадаўнія цырымоніі — паднясенне мяча, узвядзенне на трон і г. д.

3) Каранацыя караля адбываецца ў Кракаве, а ўзвядзенне на вялікакняскі прастол — у Вільні. У час каранацыі кароль прысягае ў тым, што будзе зберагаць у каралеўстве ўсе правы, вальносці, ганаровыя званні і ўрады. Такую ж прысягу ён, як вялікі князь, прыносіць і ў Вільні пры ўзвядзенні на трон.

4) Клятвы, дадзеныя гаспадаром Польскаму каралеўству і Вялікаму Княству, замацоўваюцца паасобку пячаткаю Кароны і пячаткаю Княства.

5) Пасля каранацыі ў Польшчы агульны гаспадар абавязаны на працягу трох бліжэйшых месяцаў прыехаць у Вільню для ўзыходжання на прастол Вялікага Княства. Да таго часу, покуль кароль не наведаецца ў Вільню, не прынясе прысягі і не будзе ўзведзены на трон, ён не мае ўлады загадваць нешта гаспадарству.

6) Вялікае Княства і Польшча па ўзаемнай дамоўленасці будуць мець агульную абарону ад знешніх ворагаў.

7) Для вырашэння такіх пытанняў, як абранне караля і вялікага князя, абарона, распачынанне вайы і заключэнне міру, выпраўленне пасольстваў у чужыя краіны, памеры падаткаў,— склікаюцца агульныя Вальныя Соймы, у час якіх усё сумесна разглядаецца, і разам прымаюцца адзіныя рашэнні.

8) Агульныя Вальныя Соймы павінен склікаць кароль і вялікі князь, узгадняючы сваё рашэнне з урадам абедзвюх дзяржаў шляхам абвесткі Граматамі. Перад кожным Соймам, у адпаведнасці са Статутам, склікаюцца павятовыя соймікі для абрання дэпутатаў. Месца правядзення агульных Соймаў чаргуецца: адзін раз у Польшчы, другі ў Вялікім Княстве. Усе Соймавыя Канстытуцыі абавязкова замацоўваюцца пячаткамі Княства і Кароны, без чаго яны не маюць юрыдычнай моцы.

9) У Кароне і Княстве дазваляецца склікаць паасобныя Соймы для вырашэння прыватных праблемаў кожнай з дзяржаў.

10) У тым выпадку, калі кароль і вялікі князь ня можа ці не жадае збіраць асобны Вальны Сойм, то ўраднікі Княства і Кароны маюць права самастойна склікаць яго і абмеркаваць на ім свае справы, за выключэннем тых пытанняў, якія належаць кампетэнцыі агульнага Вальнага Сойму.

11) Ганаровыя званні і пасады, існуючыя ў Вялікім Княстве, надалей ва ўсе часы павінны захоўвацца. Без страты значэння і гонару ў Княстве зберагаюцца ўрады маршалкаў, канцлераў, гетманаў і падскарбіяў.

12) Людзям польскага паходжання дазваляецца набываць нерухомую маёмасць у Вялікім Княстве і, наадварот, ураджэнцам Княства — у Польскім каралеўстве. Аднак забараняецца даставаць любыя ганаровыя званні і пасады — духоўныя і свецкія (земскія, прыдворныя, судовыя). Яны ў межах Вялікага Княства ня могуць нікому давацца, апроч карэнных насельнікаў.

13) Усялякая манета ў абедзвюх краінах павінна быць аднолькавай і мець роўную вагу. Для справядлівасці і лепшага парадку ў фінансах адкрыць манетныя двары ў Польшчы і ў Вялікім Княстве. Пры гэтым на манеце беларускага гаспадарства павінен стаяць тытул вялікага князя, а не караля.

14) Межы між асобнымі землямі Вялікага Княства выпраўляюцца вялікакняскімі камісарамі, а ў Польшчы — польскімі камісарамі. Агульныя межы між Каронаю і Княствам удакладняе галоўная камісія, створаная каралём і вялікім князям. Спрэчныя пытанні вырашаюцца праз суд.

15) Кароль і польскія паны перад падпісаннем вуніі даюць клятву, што ніколі ня будуць патрабаваць ад Вялікага Княства экзэкуцыі, г. зн. перадачы Польшчы каралеўскіх палацаў і зямель, што знаходзяцца на абшарах Княства. У тым жа разе, калі нейкі Сойм запатрабуе ад Княства. выканання экзэкуцыяў, то ліцьвіны маюць поўнае права адхіліць гэтае патрабаванне. Калі гэты артыкул будзе парушаны шляхам хітрасці ці падману, то Вялікае Княства вызваляе сябе ад абавязкаў, прынятых у сувязі з вуніяй.

Прапанаваны «Праект вуніі», што прадугледжваў пераважна вайскова-палітычны хаўрус дзвюх дзяржаў пры захаванні іх роўнасці і свабод, быў варожа сустрэты польскімі магнатамі і шляхтай. Яны прапанавалі свае ўмовы вуніі, дамагаючыся поўнай інкарпарацыі беларускага гаспадарства ў склад Польшчы.

Літаральна вакол кожнага пункта «Праекта вуніі» разгарэліся вострыя дыскусіі, падчас якіх Астафей Валовіч апантана бараніў сваю канцэпцыю аб'яднання дзяржаваў. 21 студзеня 1569 года падканцлер разам з Янам Хадкевічам меў працяглую размову з каралём. На наступны дзень, 22 студзеня, Астафей Валовіч, а з ім яшчэ некалькі прадстаўнікоў Вялікага Княства зноўку сустракаўся з Жыгімонтам II Аўгустам, але ўжо за зачыненымі дзвярыма. Напэўна, падканцлер шукаў шляхоў, каб схіліць манарха на бок беларускага гаспадарства.

Некалькі тыдняў няспынных дыскусіяў, не зважаючы на рашучыя дзеянні Астафея Валовіча ды Яна Хадкевіча, на жаль, скончыліся безвынікова. У канцы лютага 1569 года беларуская дэлегацыя ў знак пратэсту пакінула Люблін. Да першага сакавіка там засталося толькі некалькі чалавек. Падканцлер Княства таксама застаўся ў Любліне.

Ад'езд вялікакняскіх прадстаўнікоў з Сойму задзеў палякаў за жывое. Абураныя няўдачай, яны пачалі тузаць караля, патрабуючы ад яго неадкладнага пакарання Вялікага Княства, з чым манарх мусіў пагадзіцца. Першага сакавіка 1569 года Жыгімонт II Аўгуст падпісаў Універсал аб адарванні Валыні і Падляшша ад беларускага гаспадарства і далучэнні іх да Кароны. Захоп Польскім каралеўствам багатых паўднёвых зямель Княства, дарэчы, са згоды многіх украінскіх феадалаў, стаўся для беларускага гаспадараства, і так знядужанага ў вайне з Маскоўшчынай, ударам пад самае сэрца.

У адказ на вераломны ўчынак палякаў беларускія радныя паны, у тым ліку і непасрэдна падканцлер Астафей Валовіч, паслалі ва ўсе паветы свае лісты, заклікаючы шляхту рыхтавацца да вайны з Каронаю (Дневник Люблинского Сейма 1569 года. Спб., 1869. С. 187, 253, 257).

Падканцлера надта абурала і тое, што ягоныя маёнткі — Ламазы, Воін і Кадынец, якія знаходзіліся на Бэрасцейшчыне, на ўзмежжы з Падляшшам, палякі без усялякіх на тое падставаў аднеслі да Падляшша і аб'явілі сваёю ўласнасцю. На самай справе гэтыя землі яшчэ з часоў Казіміра Ягайлавіча належалі Берасцейскаму старастве. Валовіч набыў іх недзе ў 1565 годзе. У 1568-м Ламазы за ягоным хадайніцтвам атрымалі нават свой герб і магдэбургію. Цяпер жа палякі паставілі Астафея Валовіча перад выбарам: альбо назаўсёды развітацца з імі, альбо прынесці прысягу на вернасць Кароне ды ў наступныя гады плаціць падатак з іх не ў вялікакняскую, а ў польскую скарбонку.

Дзевятага сакавіка 1569 года, пасля таго як Кароне прысягнулі некалькі падляскіх паноў, палякі звярнуліся да караля з патрабаваннем, каб ён прымусіў гэтаксама і Валовіча, як уладальніка дзяржаваў, што знаходзіліся нібыта на Падляшшы, прынесці прысягу Польскаму каралеўству. Асабліва шчыраваў пан Мікалай Сянецкі, холмскі ваявода, называючы падканцлера галоўным віноўнікам разарвання вуніі.

Жыгімонт II Аўгуст, параіўшыся з сенатарамі, прыняў усё-такі рашэнне вызваліць Астафея Валовіча ад прысягі. Аднак ён пагадзіўся з тым, што падканцлер Княства павінен уносіць падаткі за карыстанне Ламазамі, Кадынцом і Воінам у казну Польскага каралеўства. Сваё кампраміснае рашэнне манарх абгрунтаваў існуючым у Польшчы звычаем, паводле якога шляхта, атрымліваючы новыя землі, не прыносіць каралю нейкай дадатковай прысягі. Частка польскіх паслоў, аднак, адчуваючы сілу, не жадала адступаць ад свайго. Пасольскі маршалак Чарнкоўскі, напрыклад, звяртаючыся да караля, сцвярджаў: «Прыгадайце, Ваша Міласць, калі да каралеўства пераходзілі Пруская зямля і Мазавецкае княства, то ўсе афіцыйныя асобы: саноўнікі, дзяржаўцы, шляхта, а таксама гарады — тады прысягалі, хоць аніякага сумліву ў іхняй вернасці не існавала. А пан Астафей — галоўны віноўнік разарвання вуніі. Ён частку паслоў выправіў адсюль, а тым, што па сваёй волі засталіся тут, пагражае. І гэтая агідная (suspecta) асоба ня хоча прысягаць! Божа барані! Ды й хто ж яго ведае, куды ён будзе ўносіць падаткі — у княскую ці ў каралеўскую скарбонку? Нельга нам адступаць ад свайго рашэння, бо гэта абразіць тых, хто ўжо прынёс прысягу» (Дневник... С. 173). Ваяўнічы пан Сянецкі паўтараў услед за Чарнкоўскім: «Сапраўды, нядобры быў бы прыклад, калі б за падазрэнне належала апраўдвацца. Але тут іншы выпадак: на працягу паўтараста гадоў нашыя продкі пераконваліся, што ліцьвіны не жадаюць вуніі з намі. Мы зараз гэта цудоўна бачым. Асабліва супраціўіцца пан Астафей — відавочны вораг каралеўства. І калі ён не прынясе прысягі, то ад гэтага будзе вялікая шкода» (Дневник... С. 173 — 174).

Ад імя польскіх паслоў Рафаіл Ляшчынскі, радзяеўскі стараста, таксама папярэджваў караля і сенатараў, каб яны не саступалі падканцлеру. Усяляк абражаючы Валовіча, радзяеўскі стараста між тым указваў, што падканцлер мае вялікі аўтарытэт сярод шляхты Вялікага Княства. «Калі пан Астафей не прысягне, — гаварыў Ляшчынскі, — дык і іншыя ня прыйдуць сюды. А як ён дасць клятву, то знікне надоба пасылаць за астатнімі: усе яны будуць тутака, бо глядзяць і раўняюцца на яго. Тады й Падляшша лягчэй адваюем, бо ўся Літва пойдзе за ім» (Дневник... С. 174).

Пасля палымянай прамовы Рафаіла Ляшчынскага шэраг польскіх паноў, што яшчэ вагаліся, пагадзіліся з тым, каб Валовіч сапраўды прынасіў прысягу на вернасць Кароне. Аб гэтым сведчыць прамова пана Асалінскага, які так падсумаваў дыскусію: «Міласцівыя панове! Я бачу слушнасць аргументаў паслоў за тое, каб Астафей даваў клятву. Паслы, па-першае, правільна ўказваюць на прыклад Прускага і Мазавецкага княстваў, насельнікі якіх наогул усе прысягалі. Па-другое, яны звяртаюць увагу на вінаватасць Астафея ў разарванні вуніі. Па гэтых прычынах аніяк не дапушчальна, каб ён не прысягаў. Ён трымае аграмадныя польскія дзяржавы, і няўжо ён будзе ворагам Кароны? Калі да нас далучыліся і прынеслі прысягу тыя, што зусім не падазраваліся ў варожасці да нас, дык тым больш Астафей мусіць прысягнуць, бо ён сапраўдны наш вораг. Усе мы выдатна ведаем: ён — зацяты праціўнік (contrarius) вуніі. Таму мы павінныя альбо абвергнуць паслоў паважнымі аргументамі, альбо пагадзіцца з імі. Я, асабіста, цалкам згодны з пасламі» (Дневник... С. 174).

(Працяг будзе).

## ПЕРШЫЯ КРОКІ КОЛАСАЗНАЎСТВА НА ЗАХАДЗЕ

# ЯГО ТАЛЕНТ НАЛЕЖЫЦЬ СВЕТУ

У ёй у раздзеле «Навейшая беларуская літаратура» Я. Коласу прысвячаўся асобны нарыс «Канстанцін Міцкевіч». Гэта быў для свайго часу самы поўны і кампетэнтны разгляд творчасці пісьменніка не толькі на Захадзе, але і ў самой Беларусі. У ім вучоны звярнуў увагу на сацыяльную накіраванасць паэзіі Коласа, адзначыў жанравую і тэматычную разнастайнасць яго твораў, паказаў багацце творчай натуры, рознабаковасць таленту пісьменніка. Глыбока і высокакваліфікавана прааналізавана паэма «Сымон-музыка», прагучала высокая ацэнка Коласа-празаіка, асабліва яго алегарычных апавяданняў, якія склалі пазней знамянальныя «Казкі жыцця».

І ў пазнейшы час італьянская славістыка не траціць цікавасці да беларускай праблематыкі. Так, у 1926 годзе ў часопісе «Усходняя Еўропа» П. Аўрэліо апублікаваў вялікі аглядны артыкул «Савецкая Беларусь», дзе пры разглядзе сучаснай беларускай літаратуры паказаў ролю і значэнне творчасці Коласа ў яе развіцці. Аднак найбольш характэрным у гэтых адносінах стаў артыкул Я. Ляцкага «Якуб Колас — паэт адраджаючайся Беларусі», змешчаны ў «Часопісе славянскіх літаратур» (1927). Гэта адна з першых на Захадзе асобных публікацый пра Коласа. Артыкул атрымаў шырокі рэзананс. Нямецкі славіст Э. Гертэль адгукнуўся на яго рэцэнзіяй у «Штогодніку па культуры і гісторыі славян» (1928).

Як вынікае з артыкула, Я. Ляцкі лічыць, што сярод творцаў беларускага прыгожага пісьменства, якое зараз перажывае перыяд росквіту, Коласу належыць адно з першых месцаў. Аднак самае важнае, на што ён звяртае ўвагу чытача, — гэта цесная сувязь творчасці паэта з жыццём свайго народа. Таму мова і стыль яго паэзіі наскрозь пранізаны народнасцю, а светаадчуванне — настроямі беларускай прыроды. На аснове аналізу твораў паэта італьянскі славіст робіць вывад, што ў паэзіі Коласа знайшлі своеасаблівае спалучэнне ідылічныя рысы адлюстравання акаляючага свету і палітычны энтузіязм, скіраваны на вызваленне роднага краю. Аднак побач з імі ў творчасці пісьменніка знайшоў адбітак і трывожны неспакой за няпэўную будучыню любімай старонкі, асабліва ў вершы «Цені-страхі». У канцы артыкула гучыць перакананне, што Колас яшчэ далёка не вычарпаў сваіх пісьменніцкіх магчымасцяў і што над яго творчым «я» заўсёды будзе ззяць сонца ягонай Бацькаўшчыны. Важным было і тое, што ў артыкуле Я. Ляцкі змясціў у перакладзе на італьянскую мову ўрыўкі з паэмаў Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка», а гэта азначала, што італьянскі чытач мог даведацца з артыкула не толькі пра ацэнку творчасці пісьменніка, але і адчуць водар коласаўскай паэзіі ў яе лепшых узорах.

У другой палове 20-х гадоў у Францыі пашыраецца знаёмства з Беларуссю і яе культурай. З імем Коласа звязаны там некалькі публікацый: адна з іх — вялікі артыкул М. Рэнэ «Беларусь», змешчаны ў часопісе «Свет славы» (1929), дзе разгледжана развіццё новай беларускай літаратуры, у кантэксце якой асвятлялася роля яе вядучых пісьменнікаў Я. Коласа і Я. Купалы. Аднак больш шырокае асвятленне творчасць Я. Коласа атрымала ў кнізе дацэнта Парыжскага універсітэта Р. Мартэля «Беларусь. Нарысы па гісторыі, геаграфіі, палітыцы і эканоміцы» (1929). Колас паказаны там як адзін з буйнейшых прадстаўнікоў беларускага адраджэння, як пісьменнік, пад уплывам якога ішло фарміраванне новай беларускай літаратуры.

Звесткі пра Беларусь паступова пранікаюць і ў Скандынаўскія краіны. Рэдакцыя ютэборгскай газеты «Паўднёвы шведскі кур'ер» (1926) адзін са сваіх нумароў поўнасцю прысвяціла нашай рэспубліцы. На яе старонках змешчана серыя артыкулаў пра наш край — «Сем гадоў Савецкай Беларусі», «Асвета ў БССР», «Сялянскі універсітэт», «Культура Беларусі» і інш. Менавіта ў апошнім з іх і адбылося знаёмства шведскага чытача з беларускім пісьменнікам Я. Коласам. У другой шведскай газеце «Паведамленні з Обу» (1938) значна пазней убачыў свет артыкул А. Б. Каліяндэра «Беларусы, найменш вядомы народ Еўропы», дзе вялася гаворка пра гісторыю і культуру нашага народа, у тым ліку і творчасць яго лепшых пісьменнікаў Я. Коласа і Я. Купалы.

Цікавасць да творчасці Я. Коласа праявіў і варшаўскі часопіс «Нацыя», што выдаваўся на англійскай мове. У ім у 1927 годзе з'явілася значная публікацыя «20-я гадавіна беларускага паэта Якуба Коласа (К. Міцкевіча)», у якой прасочваўся дваццацігадовы творчы шлях пісьменніка, раскрываўся яго важкі ўклад у развіццё роднай літаратуры, у духоўнае жыццё свайго народа.

Аднак, безумоўна, самая большая колькасць матэрыялаў, звязаных з творчасцю Я. Коласа, апублікавана ў гэты час у Германіі. Справу знаёмства з беларускай культурай распачалі там грамадска-палітычныя выданні, такія, як берлінскі штотыднёвік «Рабочая ілюстраваная газета», часопіс «Новая Расія» і інш. У апошнім з іх неаднаразова змяшчаліся артыкулы пра беларускую літаратуру. Найбольш заўважнымі сярод іх сталі «Маладая беларуская літаратура» (1929), «Культурнае будаўніцтва ў БССР» (1929) Ц. Гартнага ,«Беларуская літаратура» (1929) М. Піятуховіча і інш., у якіх даволі прыкметны адбітак знайшла і творчасць Я. Коласа. Але больш шырока ўваходзіла яна ў літаратурнае жыццё Германіі праз нямецкія славістычныя часопісы, асабліва «Славянскі агляд», «Часопіс па славянскай філалогіі», «Штотыднёвік па гісторыі і культуры славян» і інш., дзякуючы артыкулам і рэцэнзіям Я. Карскага, А. Луцкевіча, У. Самойлы, Г. Віршубскага і інш. З іх асабліва хацелася б вылучыць рэцэнзіі на зборнік «Этапы развіцця беларускай літаратуры» (1928) Г. Віршубскага на кнігі М. Піятуховіча «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры» (1929) Я. Карскага, І. Свянціцкага «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі» (1929) У. Самойлы, артыкул П. Растаргуева «Даследаванні па беларускаму мовазнаўству ў 1917 — 1927 гадах» (1930), дзе ў раздзеле «Сучасная беларуская літаратурная мова» разглядалася публікацыя П. Бузука «Мова і правапіс твораў Якуба Коласа» і шмат іншых.

Вядома, знаёмства з творчасцю Я. Коласа адбывалася тады не толькі праз артыкулы і рэцэнзіі. Так, у 1927 годзе ў Германіі Е. Кальмер выдае «Еўрапейскую лірыку сучаснасці. 1900—1925» (1927) з перакладамі вершаў Я. Купалы, М. Багдановіча, З. Бядулі, у тым ліку і Я. Коласа «Восень у гаі», «Тая ж самая даль». Гэта быў першы выпадак уключэння ў еўрапейскую анталогію твораў беларускіх паэтаў. І хай сабе няпоўна і не ў найбольш характэрных узорах прыходзіла беларуская паэзія да заходнееўрапейскага чытача, але сам факт знаёмства з ёю меў вялікае значэнне.

Пэўна, папулярызацыі творчасці Я. Коласа за мяжой у значнай ступені спрыялі ўсесаюзныя часопісы і выдавецтвы, што публікавалі матэрыялы на замежных мовах. Сярод іх у першую чаргу хацелася б вылучыць «Бюлетэнь ВОКС» (Усесаюзнага таварыства культурнай сувязі з замяжою), які выдаваўся на важнейшых мовах свету: англійскай, французскай, іспанскай і інш. На яго старонках у артыкулах «Сучасная беларуская літаратура» (1927), «Культурнае будаўніцтва ў Беларусі» (1929), «Беларуская паэзія» (1929) і асабліва ў такіх, як «Беларускія паэты» (1927), «Беларускія паэты Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны» (1929) ды «Беларуская літаратура» (1929) пры разглядзе літаратурнага працэсу ў рэспубліцы вялікая ўвага звярталася на творчасць Я. Купалы і Я. Коласа. Апошні паказваўся чытачу як таленавіты пісьменнік, адданы патрыёт сваёй бацькаўшчыны, шчыры выразнік настрояў шырокіх сялянскіх мас краю. Яму побач з Купалам надавалася выключная роля ў адраджэнні беларускага прыгожага пісьменства, яго станаўленні і развіцці. Асобнае месца ў літаратурным працэсе 20-х гадоў належала паэмам Я. Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка», як вяршыням не толькі ўласнай творчасці паэта, але і вышэйшым праяўленням духоўнага жыцця народа. Першая з іх называлася «адысеяй беларускай літаратуры», бо менавіта ў ёй знайшло адбітак усё жыццё беларускага селяніна ад калыскі да магілы. Аднак паступова становілася заўважным, што пры разглядзе творчасці Я. Коласа ў аналіз яго ўсё больш і больш пранікалі вульгарызатарскія ацэнкі. І хаця яшчэ не наступілі жорсткія часы сталіншчыны, аднак іх дыханне адчувалася ўжо ў канцы 20-х гадоў.

1929 год стаў апошнім годам інтэнсіўнага друкавання беларускіх матэрыялаў на Захадзе. Наступленне сталіншчыны ў СССР, прыход да ўлады Гітлера ў Германіі вельмі шкодна адбіліся на публікацыі беларускіх матэрыялаў за мяжою, а заключэнне пагаднення СССР з фашысцкай Германіяй (1939) канчаткова падарвала давер прагрэсіўнай інтэлігенцыі да Савецкага Саюза. Усё гэта прывяло да непапраўных страт у папулярызацыі беларускай літаратуры на Захадзе, у тым ліку і творчасці Я. Коласа. Толькі невялікі ручаёк інфармацыі з Заходняй Беларусі (А. Луцкевіч, У. Самойла і інш.) і з Чэхаславакіі ды тое, што друкавалася замежнымі славістамі, насіла аб'ектыўны характар і мела пэўную каштоўнасць. Да такіх публікацый 30-х гадоў трэба ў першую чаргу аднесці артыкул «Маладая літаратура старадаўняга народа» (1931), змешчаны ў «Нарысах рускай гісторыі і літаратуры» вядомага італьянскага даследчыка славянскіх культур Эторэ Ло Гато, аўтара знамянальнай «Гісторыі рускай літаратуры» (т. 1-7, 1928-44). Творчасць Я. Коласа ў яго інтэрпрэтацыі знайшла шчырае і аб'ектыўнае выяўленне.

Але, безумоўна, самым глыбокім і кампетэнтным, найбольш значным і аналітычным для свайго часу быў артыкул А. Луцкевіча «Беларуская літаратура ў мінулым і цяпер» (1931, «Штогоднік па культуры і гісторыі славян»). Ні адно з беларускіх даследаванняў таго часу не давала такога ўсебаковага і грунтоўнага, праўдзівага і бескампраміснага разгляду творчасці Я. Коласа, як артыкул А. Луцкевіча. Асабліва вылучаўся ён на фоне распачаўшайся кампраметацыі, неабгрунтаваных нападкаў, перагляду адносін да спадчыны пісьменніка. Не страціў ён сваёй значнасці і да сёння. Аб гэтым пераканаўча сведчыць той факт, што ў найбольш кампетэнтных выданнях Захаду артыкул А. Луцкевіча пастаянна прыводзіцца як адна з каштоўных крыніц па вывучэнню творчасці Я. Коласа.

Асобна стаіць вялікі аглядны артыкул П. Шайберта «Беларуская палітычная думка да 1919 года» (1938, «Ёмсбург»). Хаця з'явіўся ён у Германіі падчас фашысцкага рэжыму, аднак падобна да кнігі Е. Энгельгарта «Беларусь» не адлюстроўвае поглядаў яго ідэолагаў на славянскія землі як каланіяльную прастору, а славянскія народы як народы другараднай расы. У ім на аснове шматлікіх беларускіх крыніц паказаны працэс палітычнага адраджэння беларускай нацыі, які стаў вызначальным для імклівага развіцця беларускай літаратуры, дзе найважнейшая роля належала Я. Коласу і Я. Купале.

Аднак пасля 30-х гадоў у артыкулах, якія друкаваліся ў савецкіх выданнях і прызначаліся для замежнага чытача, разгляд творчасці Я. Коласа, ацэнка яго ўкладу ў родную літаратуру рэзка змяніліся. Яго дэмакратызм разглядаўся к праяўленне дробнабуржуазнай ідэалогіі, а нацыянальныя пачуцці як контррэвалюцыйны шавінізм. Яркім прыкладам такіх адносін да творчасці пісьменніка быў артыкул А. Сянькевіча «Беларуская літаратура» (1933, «ВОКС»), дзе творчасць Коласа разглядалася з вульгарна-сацыялагічных пазіцый як варожа нацыяналістычная. Тыповым жа ўзорам новых «падыходаў» да літаратуры стаў артыкул Я. Бранштэйна «Мастацкая літаратура Беларускай ССР», змешчаны ў спецыяльным нумары часопіса «ВОКС», поўнасцю прысвечанага «Літаратуры Савецкага Саюза» (1934). У ім у абразлівай форме даваўся вельмі агульны, наскрозь скажоны «агляд» новай беларускай літаратуры. Аналіз развіцця літаратуры, творчасці пісьменнікаў тут падмяняўся фальшывымі ацэнкамі, якія не адпавядалі ні стану літаратуры, ні сутнасці літаратурнага працэсу, ні рэальнаму ўкладу кожнага пісьменніка ў гэты працэс. Адраджэнне роднай літаратуры ў нашаніўскі перыяд параўноўвалася з «рэакцыйна - нацыяналістычным шабашам ведзьмаў», падчас якога «шавіністычнае высакамер'е загнала літаратуру ў тупік нацыянальнага цемрашальства», прывяло да «поўнага растлення беларускай буржуазна-нацыяналістычнай культуры». На працягу ўсяго артыкула гучалі беспадстаўныя і абразлівыя абвінавачванні ў контррэвалюцыйным буржуазным нацыяналізме, да ліку якога былі далучаны Я. Колас і Я. Купала. І толькі ў канцы 20-х гадоў пад моцным уздзеяннем сацыялістычных пераўтварэнняў яны звярнуліся да адлюстравання светлай савецкай рэчаіснасці. Пэўна сярод гэтага абразлівага і наскрозь хлуслівага слоўнага смецця і бруду нельга знайсці і намёку на глыбокі, праўдзівы і аналітычны разгляд творчасці Я. Коласа.

Да артыкулаў «ВОКС» прымыкалі па сваёй ідэйнай накіраванасці публікацыі іншых замежных выданняў СССР. Так, у адным з нумароў «Агляду савецкай культуры» надрукаваны артыкул «Два паэты савецкай Беларусі» (1933) і пераклад верша Я. Коласа «Беларусам». У ім даволі шырока, хаця не без уплыву вульгарызатарскіх тэндэнцый, характарызавалася спадчына паэта. Яго творчасць знайшла адлюстраванне і на старонках нямецкамоўнага выдання «Інтэрнацыянальнай літаратуры», асабліва ў артыкуле «Лірыка ўкраінцаў і беларусаў» (1939). Падобныя публікацыі пранікалі і ў замежныя выданні. У гэтай сувязі хацелася б нагадаць паведамленне С. Івіка «З беларускага літаратурнага жыцця» (1936, «Славянскі агляд») — водгук на III пленум пісьменнікаў СССР (Мінск, 1936). У ім значная ўвага аддавалася найбольш моцнаму і канструктыўнаму выступленню Коласа на пленуме. У гэты страшны час ён знайшоў у сабе мужнасці, каб звярнуцца да пісьменнікаў не з рэвалюцыйнымі праклмацыямі, не з пустымі дэкларацыямі, а з заклікам да павышэння майстэрства, да больш глыбокага і праўдзівага адлюстравання жыцця народа. С. Івік не прамінуў адзначыць і эвалюцыю ў творчасці пісьменніка, які ад фармалізму і дагматызму ўпэўнена крочыў да рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця. І хаця артыкул пазбаўлены абразлівых нападкаў і абвінавачванняў, ён увесь пранізаны духам вульгарызатарскай крытыкі 30-х гадоў.

Аднак заходнееўрапейскі чытач атрымліваў і праўдзівую інфармацыю пра працэсы, што адбываліся на Беларусі ў 30-я гады. Характэрным у гэтых адносінах стаў артыкул Л. Зільберштэйна «Культура ва ўсходніх славян», апублікаваны ў часопісе «Свет славян» (1937), дзе вялася гаворка пра беспадстаўныя рэпрэсіі і абвінавачванні лепшых пісьменнікаў Беларусі і Украіны, у тым ліку і Коласа.

Нават кароткі агляд таго, як адбывалася знаёмства з творчасцю Коласа на Захадзе ў даваенны час, дае нам падставы адзначыць, што яно не было ні пастаянным, ні трывалым, аднак з кожным годам паглыблялася, а дыяпазон яго пашыраўся. Красамоўным сведчаннем таму служыць і той факт, што духоўны свет пісьменніка пранікае не толькі на старонкі газет, часопісаў, кніг, але знаходзіць адлюстраванне і ў спецыяльных даведкавых выданнях, такіх, як «Энцыклапедычны слоўнік Меера» (1929—1930), «Энцыклапедычны слоўнік Бракхаўза» (1919—1935), «Гісторыя сусветнай літаратуры» (Турын, 1938. т. III, ч. 3А), «Італьянская энцыклапедыя» (1935, т. 30) і інш. Так, гэта былі першыя крокі, перадумовы таго, каб у пасляваенны час прыступіць да вывучэння спадчыны Коласа за рубяжом больш грунтоўна і глыбока, раскрыць яе свету ва ўсёй прывабнасці і хараствe, ва ўсёй паўнаце і арыгінальнасці.

**Уладзімір САКАЛОЎСКІ.**

[Заканчэнне. Пачатак у № 12].

# «МЫ НЕ МОЖАМ, ЯК І ІНШЫЯ НАРОДЫ, КАРЫСТАЦЦА НАЦЫЯНАЛІЗМАМ»

Пачаў выкладаць беларускую літаратуру і мову ў той самай гімназіі, дзе сам вучыўся. Зарганізаваў настаўніцкія курсы месячныя, куды набраў з раёнаў настаўнікаў, якія хоць трохі ведалі мову. Пасля Калядаў у 1940-м годзе ўсе школы перайшлі на беларускую мову. Акрамя гэтага зарганізаваў шасцімесячныя курсы для тых, хто не меў сярэдняй адукацыі. Цэлае школьніцтва за адзін год пры больш-менш спрыяльных адносінах улады паўстала. Але хутка сітуацыя стала мяняцца. З'явілася тэндэнцыя да пераводу школ на расейскую мову. Я раскажу вам два выпадкі. Адзін адбыўся, калі ў нас у Ашмяне паспрабавалі перавесці на расейскую некалькі школаў. Я і мой калега-габрэй, з якім вучыліся разам у Вільні, вырашылі пайсці ў райком партыі і запытацца, у чым тут справа. Абодва мы ў марксізме адукаваныя, а калега яшчэ і камуніст, 6 гадоў сядзеў у турме за перакананні. Я ж з вучнёўскіх часоў прайшоў добрую школу сацыялістычную. А ў райкоме нам у адказ: «А вы што, супраць рускай мовы?»— «Не, мы не супраць, — гаворым, — але ж дзе гэта ў Маркса сказана, што калі ўлада пераходзіць у рукі рабочых, то ўсё павінна перайсці на расейскую мову?»

Другі выпадак прыгадваю, калі я працаваў школьным інспектарам. Прыехаў у Ашмяну партыйны дзеяч нехта Маркаў. Ці з абкома, ці з аблвыканкома. Мы з ім накіраваліся ў адну стараверскую вёску. Гай называлася. Зрабілі там сход. Запыталі ў людзей, як яны хочуць. Старажэры пытаюцца: «А якая гэта дзяржава?»—«Савецкі Саюз»,—адказваем. «А бліжэй?» — «Бліжэй—Беларусь». —«Ну як мы ў Беларусі жывём, то не хочам мяняць мову, няхай наша застаецца». Маркаў тады моцна быў незадаволены.

І першы, і другі выпадкі, мяркую, паўплывалі на тое, што я, дэпутат гарсавета ў Ашмянах, аказаўся ў спісе палітычна «неблагонадежных» і на другі дзень вайны быў арыштаваны органамі НКУС.

**— А як вам удалося вызваліцца з турмы!**

— Наляцела нямецкая авіяцыя. І ўсе вязні апынуліся на волі.

**— Колькі вам было тады гадоў!**

— 25. Трохі ачуняўшы, я рушыў на Менск. На сценах дамоў часта стаў сустракаць розныя загады і распараджэнні, друкаваныя беларускай мовай з тарашкевічаўскім правапісам. Адразу з'явіўся стымул даведацца, хто ж гэта з беларусаў тут ёсць? Калі я прыйшоў у гарадскую ўправу, то ўбачыў сябра па універсітэту доктара Тумаша. Ён запрапанаваў мне працу ў гарадской управе ў аддзеле асветы і культуры. Там я і адпрацаваў амаль тры гады.

**— Чым вам даводзілася займацца ў гэты час!**

— Я ўпарадкаваў спачатку архіў ЗАГСу, потым пайшоў у музей. І там я быў да канца 1943 года. Пад канец 43-га перайшоў у таварыства беларускай культуры на кіраўніка краязнаўчага аддзела. Працуючы ў музеі, быў кансультантам па этнаграфіі пры пастаноўцы п'ес у тэатрах.

**— Але ж наш дзяржаўны музей, як пішацца ў энцыклапедыях, быў разрабаваны фашыстамі...**

— Гэта няпраўда, не адпавядае ісціне. Музей наш па сутнасці скончыўся ў 1930 ці 1931 годзе, калі арыштавалі Ластоўскага... Замест яго адкрылі Беларускі гістарычны музей як дапаможнік для савецкай гісторыі СССР з 4 аддзеламі. Усе экспанаты з Дзяржаўнага музея, якія не ўвайшлі ў рамкі новага музея, аказаліся ў дрывотніку, што стаяў між Юбілейным і Архірэйскім дамамі (музей жа знаходзіўся ў Архірэйскім доме, а Юбілейны дом пазней быў пераўроблены ў Дом афіцэраў).

(Працяг. Пачатак у № 12).

Гаспадаром каштоўнейшых экспанатаў аказаўся качагар дзядзька Пісьлевіч. Гэты чалавек і яшчэ мастак Габрыель Віер, які вельмі высока цаніў старое беларускае мастацтва, беражліва захоўвалі ўсё гэта багацце, хаваючы яго пад мяшкамі з-пад солі. Цяжка ўявіць, але менавіта так быў выратаваны абраз Менскай іконы Божай маці — гэта найбольшая каштоўнасць, таксама абраз «Нараджэнне Божай маці» Магілёўскай школы, абраз «Нараджэнне Ісуса Хрыста» Віцебскай школы, многія іншыя. Усе гэтыя абразы мастак Віер адрэстаўраваў, бо яны хутка псаваліся ад такога захоўвання. Я перанёс усе абразы ў Юбілейны дом, і там яны заставаліся. Але была небяспека таго, што падчас бамбёжкі ўсё гэта будзе знішчана беззваротна. Парушаючы ўсе правілы і моцна рызыкуючы, вырашыў перахаваць самыя каштоўныя абразы, забраўшы іх з музея.

Дарэчы, я павінен вам сказаць, што калі немцы ўвайшлі ў горад, яны наклалі пячаткі на архівы, бібліятэкі і музеі і рушылі далей. І лёс іх тады залежаў ад тых, хто застаўся там працаваць. Але ж вядома, што савецкія кіраўнікі ўсіх гэтых устаноў і работнікі, якія былі ў асноўным камуністамі, — эвакуіраваліся. Так што на першым часе нямецкай акупацыі нашы культурныя ўстановы аказаліся без апекі. У гістарычным музеі нямецкую пячатку знялі, і яго рабавалі ўсе, хто хацеў... Дзякуючы асабістай мужнасці жанчын, якія засталіся працаваць у Ленінскай бібліятэцы і ў архіве, прозвішча адной з іх я памятаю — Дзяржынская, былі захаваны ў добрым стане архівы, збіраліся новыя экспанаты, захоўваліся ў недатыкальнасці кнігазборы. Што датычыцца карціннай галерэі, якая была адчынена ў 1939 годзе, то яе спасціг такі самы лёс, як і гістарычнага музея. У першыя месяцы акупацыі адміністрацыя вермахта частку лепшых рэчаў вывезла ў Кёнігсберг. Сярод іх была калекцыя слуцкіх паясоў, абразы. Рэшту таго, што засталося, перанеслі ў будынак Генеральнага камісарыяту, што размяшчаўся на пляцы Волі. І там усё гэта ляжала на калідоры. Калі я ўжо быў загадчыкам музея, мне прыходзілася па справах бываць у генеральным камісарыяце. Аднойчы, было гэта ў 1942 годзе, адзін з высокіх начальнікаў кажа мне: «Там абразы валяюцца на калідоры, трэба забраць іх у музей». Яны далі машыну, і мы перацягалі іх у вялікую залю Юбілейнага дома. Частку абразоў, аўтарамі якіх былі габрэі-мастакі, аддзялілі, завезлі ў Аўстрыю, а ўсё астатняе — потым у Нямеччыну.

**— Спадар Шукелойць, ці можаце вы расказаць, як паўставала беларуская адміністрацыя ў часы нямецкай акупацыі!**

— Вермахту, які палітыкай не займаўся, было ўсё роўна, хто ты і што, абы ціха ў горадзе, абы ежа была. У іх увазе — фронт. Дарэчы, сярод немцаў, што служылі ў вермахце, нямала было баронаў балтыцкіх, выхаваных яшчэ ў царскіх афіцэрскіх школах у Расіі. Яны то і сталі спярша на чале ваеннай адміністрацыі. У гэты час папрыходзілі з савецкіх турмаў беларускія дзеячы. Прыехаў з Варшавы доктар Антановіч, які аднавіў дзейнасць Чырвонага Крыжа. Вельмі вялікую ролю адыграў ён у першыя месяцы нямецкай акупацыі. Санітарныя ўмовы ў горадзе былі жахлівыя: на вуліцах, у будынках — трупы, распаўсюдзіўся тыфус. Антановіч, які пасля і сам перанёс гэту хваробу, арганізаваў па дамоўленасці з ваеннай адміністрацыяй першую дапамогу па дастаўцы лекаў у шпіталі. З прыходам цывільнай нямецкай адміністрацыі з Кубэ на чале Чырвоны Крыж быў зачынены. Недзе ў жніўні Родзька, Саковіч склікалі першую нелегальную нараду, у якой удзельнічалі чалавек 20. Пастанавілі ўтварыць незалежніцкую партыю, падпольную, беларусізаваць адміністрацыю і школьніцтва, культурныя ўстановы. Тады ў выніку гэтых пастаноў пачалі рэарганізоўвацца. Кіраўніком аддзела асветы і культуры стаў Гуцька (Дудзіцкі), дырэктарам тэатра — юрыст Краўчанка, дырэктарам музея — я, ксёндз Гадлеўскі ўзначаліў школьніцтва. Рашылі зарганізаваць беларускую Самапомач. Што яна рабіла? Дастаўляла прадукты з вёсак у горад, цэлыя абозы. А назад тыя абозы везлі ў вёску яўрэйскую дзятву, якую ратавалі ад смерці. Вельмі часта розныя настаўнікі з Менску ехалі, каб не памерці ў горадзе з голаду. Яўрэйскіх дзетак забіралі да сябе нашы жанчыны, і не ўсе яны потым вярнуліся да яўрэйства, засталіся ў беларускіх сем'ях, разам з імі паехалі на эміграцыю. Пэўна, з пункту гледжання яўрэйскага нацыяналізму, мы зрабілі шкоду, асімілявраўшы тых малых, але з пункту гледжання агульначалавечага — выратавалі ім жыццё. На нас, дарэчы, часта рабілі даносы ў сувязі з дапамогай яўрэям.

**— Вы сказалі, што ўжо ў першыя месяцы нямецкай акупацыі супрацоўнікі беларускай адміністрацыі ў Мінску арганізавалі незалежніцкую партыю. Трохі шырэй пра яе мэты і задачы...**

— Бачыце, ужо тады многія з нас разумелі, што з немцамі беларусам не па дарозе, а трэба, выкарыстоўваючы момант, зарганізавацца, усімі магчымымі сродкамі аблягчыць становішча нашых людзей. Праца ў адміністрацыі давала такія-сякія магчымасці. Камендант паліцыі Юльян Саковіч быў арганізатарам падпольнага руху супраць фашыстаў. Дзеяч кампартыі ў Заходняй Беларусі, ён прасядзеў у польскіх турмах каля 10 год. У хаце Саковіча адбываліся ўсе нелегальныя сходы і з'езды незалежніцкай партыі.

**— А ці былі кантакты ў гэтай партыі з савецкім падполлем!**

— Былі. Аб некаторых момантах, праўда, яшчэ зарана гаварыць. Бо яшчэ жывыя людзі, якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі падзей. Скажам, бацькі знаходзіліся ў нашым падполлі, а дзеці ці ўнукі — у другім. Але былі выпадкі, было такое блізкае паміж намі супрацоўніцтва, дзе трэба было выканаць канкрэтную акцыю.

Падпольная работа ёсць зусім іншы свет. Бо там ні законаў, ні паліцыі. У падполлі не заўсёды ведаеш, з кім маеш справу. Двайное дно ў людзей. Узяць хаця б забойства Кубэ. Людзі, якія арганізавалі гэту акцыю, мусілі ўвайсці ў кантакт з партызанамі, каб іх рукамі ажыццявіць свой план.

**— Ну, калі было два падполлі ў час акупацыі, то можна меркаваць, што і партызанка існавала розная!**

— Абсалютна правільна. Найбольш вядомая партызанка савецкая. Але ж была і нацыяналістычная. Савецкая была арганізавана і ідэнтыфікавана ў Маскве ў 1942 — 1943 гадах з вышкаленых разведчыкаў і вайскоўцаў, камандзіраў. Яны былі ў Беларусь закінуты, калі там ужо існаваў партызанскі рух, які яны падпарадкавалі сабе. Партызанка ж была, як паўставала, вельмі розная. Напрыклад, у Менску ўжо ў 1941 годзе мой калега па універсітэту Валодзя Шавель, юрыст, быў апантаны ідэяй стварэння беларускага войска. Паспрабаваў да немцаў падсунуцца з гэтай ідэяй. Яны прапанавалі яму для пачатку зрабіць беларускую паліцыю, чым той і заняўся. А пасля сабраў гэтыя свае арганізаваныя аддзелы і пайшоў у лес. Вось вам першая беларуская нацыяналістычная партызанка ў Бярэзінскім лесе. Адначасова з гэтай, нацыяналістычнай, узнікла і савецкая партызанка. Савецкая Армія была разбіта, адступала, жаўнеры разбягаліся, ішлі ў вёскі, а афіцэры, асабліва палітычны састаў, трымаліся разам, групамі па 50 чалавек стараліся прабівацца на Усход, а калі не ўдавалася, яны заставаліся ў лесе, з нейкай вёскай уваходзілі ў кантакт. Яшчэ адна група, якая давала папаўненне партызанцы, — гэта савецкая адміністрацыя, якая ў выніку імклівага наступлення нямецкай арміі не паспявала выбрацца з пасёлкаў і гарадкоў. Партызанскія атрады, як вы бачыце, былі самых розных перакананняў...

**— А якое ваша меркаванне наконт асобы Кубэ!**

— Быў цікавым чалавекам. Я так думаю, што ён марыў аб тым, каб быць паўнаўладным каралём ці князем на Беларусі. Па такіх правілах і дзейнічаў. Кубэ шмат у чым разыходзіўся з палітыкай фашысцкай партыі і СС. Скрозь пальцы ён глядзеў на ўсе праявы культурнага жыцця беларусаў, на дзейнасць Саюза Беларускай моладзі, Самапомачы, Самаахoвы, шмат у чым спрыяў, што праз некаторы час пачало раздражняць Гітлера.

**— Ці мяняліся адносіны нямецкага рэжыму да беларускай адміністрацыі на працягу акупацыі!**

— Тут справа дэфініцыі калябарацыі. Хто такі калябарант? Гэта дэфініцыя, у маім разуменні, будзе адрозніваецца ад той, якую дае афіцыйная савецкая ідэёлёгія. Паводле партыйнай дэфініцыі — гэта ўсе людзі, якія працавалі ў час акупацыі: пачынаючы ад Астроўскага, які рэпрэзентаваў перад тым Беларусь для галоўнага немца, і мэр горада, і тая бедная нейкая жынчына, што працавала ў пякарні ці сталоўцы. Розніца ж вялікая. Той, хто увязваў працу з высокапастаўленым немцам, і ёсць калябарант. Людзі ж, якія працавалі ў школьніцтве, у музеях, архівах, бібліятэках,—хіба іх можна назваць нямецкімі спадручнымі?! Гэта былі патрыёты свaёй справы.

**— Мы ўжо ведаем, што ў часе нямецкай акупацыі працавалі беларускія школы, выходзілі беларускія газеты. А якім было культурнае жыццё!**

— Музей пастаянна арганізоўваў лакальныя мастацкія выставы. На ўгодкі Каствавіцкага, які быў не толькі пісьменнікам, але і майстрам мініяцюры, наладзілі выставу. У Менску было шмат мастакоў. З некаторымі я быў у даволі блізкіх адносінах. Часта сустракаўся з прафесарам Керзіным — скульптарам, ведаў прафесара Волкава, вядомага жывапісца, пейзажыста Дучыца, Тычыну. Усім ім цяжка даводзілася ў акупіраваным горадзе: і голадна, і холадна. Працавалі зімой у няпаленых майстэрнях, каб прадаць нешта і купіць ежу, пісалі партрэты нямецкіх афіцэраў. Некаторыя мастакі працавалі для царквы.

Для моладзі ладзіліся розныя курсы па мастацтву. Даводзілася і мне чытаць на іх лекцыі па народным мастацтве. Тэатр перайшоў на беларускую мову. Ставіліся драматычныя творы — Купалы, Аляхновіча, пераклады з нямецкай. Опера таксама перайшла на беларускую мову, з'явіліся пераклады класічных опер. Многа пераклалі Наталля Арсеньева, Крушына.

**— А які лёс спасціг тыя абразы, што вы ў час вайны вынеслі з музея!**

— Я гэтыя абразы перавёз з сабой у Нямеччыну. Там таксама было небяспечна — налёты ж — а я абразы, як дзіця, на плечы і бягу ў сховішча. У Рацібoры, куды былі эвакуіраваны нашы бібліятэкі — пераважна Ленінская і акадэмічная, я яшчэ і «прыглядаў» за музеем. Я меў там некалькі знаёмых немцаў. Адзін з іх філёлаг — славіст доктар Рыхль. Яшчэ ў Менску ён задаўся мэтай зрабіць такі энцыклапедычны даведнік у нямецкай мове пра Беларусь. Я павінен быў сабраць матэрыялы для даведніка. Таму нейкі час займаўся ў Рацібoры менавіта гэтым. Артыкулы для зборніка пісалі розныя спецыялісты: Янка Станкевіч — пра мову; Шкялёнак — артыкулы па гісторыі; інжынер Касяк — па архітэктуры, я — па антрапалёгіі і этнаграфіі. Але доктар Рыхль загінуў на фронце, і праца тая не была скончана. Асобныя артыкулы зборніка друкаваліся пазней у розных газетах...

У Нямеччыне я пазнаёміўся яшчэ з адным вельмі цікавым чалавекам, лужычанінам Натушам. Ён працаваў у штабе Розенберга, у арганізацыі, якая займалася архівамі, музеямі, бібліятэкамі...

Савецкая Армія ўжо была ў Кракаве, Рацібор рыхтаваўся да здачы. Гэты Натуш пераязджаў у Гэкштэт-на-Дунаі, там быў стары замак, куды звозілі ўсе трафеі. Я яму перадаў тры абразы, каб ён заапекаваўся імі. (Пасля я бачыў два з іх у вашых часопісах, яны вярнуліся на Беларусь праз Маскву, а трэці недзе згубіўся). Пазней і сам туды перабраўся, хацеў пры музеі ўладкавацца на працу. Але гэта было немагчыма. І я пайшоў да фермера-немца, каб быць блізка каля таго месца, дзе знаходзяцца карціны. Пасля, як амерыканцы прыйшлі, я зноў з'явіўся ў замак і кажу, што я музейны работнік і тут ёсць нашага музея экспанаты. Там мне сказалі, што прыедзе спецыяльная камісія, ёсць дагавор з Саветамі, і яна будзе вырашаць. Потым справа вяртання мастацкіх каштоўнасцей павярнулася так, што ёю займаліся не спецыялісты, а тыя людзі, што праводзілі рэпатрыяцыю палонных. Карціны везлі зваленымі ў кучу, таму

(Заканчэнне на 8-й стар.).

